ГОД VII ЛІСТАПАД - СЬНЕЖАНЬ 1953 г. № 57

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

ЗЬМЕСТ



**BOŽYM ŠLACHAM**
**(SUR LA VOIE DIVINE)**
BULLETIN RELIGIEUX BIELORUSSIEN BIMESTRIEL
Année VII. N° 57 Novembre-Décembre 1953
51, rue des Sts-Pères — PARIS - VI<sup></sup>e

| Перадплата «Божым Шляхам» на 1954 г. | | |
|---|---|---|
| | За адзін нумар | На год |
| Францыя | 60 фр. | 350 фр. |
| Англія | 1 ш. 10 пэн. | 8 шыл. |
| Аргэнтына | 2 пэз. | 10 пэз. |
| Аўстралія | 2 ш. | 10 шыл. |
| З. Ш. А. | 20 цэн. | 1 дал. |
| Бэльгія | 8 б. фр. | 50 б. фр. |
| Данія | 1 д. кар. | 6 д. кар. |
| Канада | 20 цэн. | 1 дал. 20 ц. |
| Нямеччына | 80 пф. | 5 н. м. |
| Швэцыя | 1 ш. кар. | 6 ш. кар. |

Грошы слаць на адрасы:

У ФРАНЦЫІ:

**Chèque Postale : Paris c. 6287 44
R. P. Horosko Leo. 95, rue de Sèvres, PARIS VIᵉ.**

У АНГЛІІ:

**Rev. dr. C. Sipovic, Marian House, Holden Avenue, LONDON N. 12.**

У АРГЭНТЫНЕ:

**Asociacion Bielorusa en la Argentina C. Coronel Sayos 2981.
4, de Junio, Buenos Aires.**

У АЎСТРАЛІІ:

**Mr. Jackievicz Donat, 60, Fisher Str. East BRISBANE. Q-ld.**

У БЭЛЬГІІ:

**Mr. Borysevic Vasil, 19, Place Hoover, LOUVAIN.**

У НЯМЕЧЧЫНЕ:

**Dechant Michael Moskalik. Konto, N° 135259, P. Sch. A. Hannover.
in Goslar,**

## СЁЛЕТА ПРЫСЛАНА Ў РЭДАКЦЫЮ

**У форме вымены наступныя газэты і часапісы:**

Аб'еднаньне Нр. Нр. 1, 2.
Абежнік БІНІМ Нр. 1.
Бацькаўшчына Нр. Нр. 1-49.
Беларус Нр. Нр. 1-21.
Беларускі Голас Нр. Нр. 2, 3.
Беларускі Патрыёт Нр. Нр. 1-9.
Беларуская Трыбуна Нр. 1-2.
Беларускі Эмігрант Нр. Нр. 1-8.
Беларускія Весткі Нр. 2.
Бюлетэнь Зл. Кам. у Кл. Нр. 5.
Бюлетэнь Б.-Ам. Адз. у Ч. Нр. Нр. 1, 2.
Веда Нр. Нр. 3-6.
Віці Нр Нр. 2-4.
Запісы БІНІМ Нр. Нр. 3, 4.
Інформ. Бюлет. СББ Нр. Нр. 17, 18.
Інформ. Бюлет. Гал. Шт. БВР Нр. Нр. 12, 18, 19.
Каласкі Нр. Нр. 10-18.
Лісток к Беларусам Нр. 1.
Лучнік Нр. Нр. 13-17.
Моладзь Нр. Нр. 30, 31.
Наперад Нр. Нр. 24, 25.
Незалежная Беларусь Нр. Нр. 1 7.
Прамень Нр. Нр. 1, 2.
Сіла веры Нр. 6.
Шарсьцень Нр. Нр. 5-11.
Шматпакутная Нр. 2.
**Ruń Nr. Nr. 4, 5.**
**Syndykalnyja vieski Nr. Nr. 1-5.**
**Znić Nr. Nr. 22-25.**
Вістник Нр. Нр. 1-23.
Вісті Нр. Нр. 1-11.
Голос Христа Чоловіколюбця Нр. Нр. 67-73.
Канадийський Ранок Нр. Нр. 760-786.
Лопос Т. III і Т. IV.
Мы і світ Нр. Нр. 9-11.
Народне слово Нр. Нр. 1-44.
Україна Нр. 7.
Українець — Час. Нр. Нр. 1-48.
Шлях Нр. Нр. 2-48.
Слідами малої святої Нр. Нр. 21-23.
Россия и вселенская Церковь Нр. Нр. 2 6.
**Idziemy Nr. Nr. 17-24.**
**Oriente Cristiano Nr. Nr. I-II.**
**Vers l'Unité chrétienne Nr. Nr. 49-57.**
**L'Observateur catholique Nr. Nr. 79-97.**
**Knygy Lentyna Nr. Nr. 1-8.**
**Katholischer Digest Nr. Nr. I-II.**
**S.I.C.O. Nr. Nr. 151-164.**
**A.B.N. Correspondance Nr. Nr. 1-12.**
**Newsletter from behin the iron curtain Nr. Nr. 311-359.**

## КНІГІ, ПРЫСЛАНЫЯ СЁЛЕТА Ў РЭДАКЦЫЮ

Каваль Пракоп, Белрусь у датах, ліках і фактах. Выд. «Моладзі» Парыж 1953, ф. 4°, стар. 108.

Клуніцкі У., Першыя крокі. Ратат. выд. Згурт. Бел. Патр. 1953. ф. 4°. стар. 14.

Колас Якуб, Новая Зямля (Паэма). Выд. «Бацькаўшчыны». Мюнхэн 1952. ф. 8°, стар. 246.

Кулікоўіч Мікола, Беларуская музыка. Кароткі нарыс гісторыі беларускага музычнага мастацтва Выд. БІНІМ. Ню Ёрк 1953, ф. 8°, стар. 64.

Купала Янка, Тутэйшыя, Трагічна сьмяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях. Выд. «Бацькаўшчыны». Мюнхэн 1953, ф. 8°, стар. 83.

Купала Янка, Раськіданае гняздо. Драма ў 5-ёх дзеях. Выд. «Бацькаўшчыны». Мюнхэн 1953, ф. 8°, стар. 58.

Лебяда Тодар, Загубленае жыцьцё. Драма ў 3-х дзеях. Рататар выд. ЗБМ. Монтрэаль 1952, ф. 8°, стар. 40.

Мрый Андрэй, Запіскі Самсона Самасуя. Аповесьць. Выд. «Бацькаўшчычыны» Мюнхэн 1953 ф. 8°, стар. 88.

Панькоў М., Паказьнік беларускіх выданьняў на чужыне за 1945-50 г. г. Выд. Кр. НТПС. Ню Ёрк 1952, ф. 8°, стар. 64.

(Працяг на трэцяй стар. вокладкі)

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год VII. ЛІСТАПАД-СЬНЕЖАНЬ № 57

# Уцелаўленьне Сына Божага

Гэта Тайна, у сілу якое другая Асоба Найсьвяцейшае Тройцы — Сын Божы, стаўся чалавекам, істотна злучыўся з людзкою натурай ува ўсім, акрамя граху, няведаньня, спагудаў, або пацягу да іх. Гэтая праўда сьвятое веры належыць да тых надпрыродных праўдаў аб якіх даведваемся толькі ў сілу Божага аб'яўленьня.

Першы раз аб'явіў Бог людзям, што гэтая Тайна станецца, тады-ж, калі пасьля першароднага граху накладаў на людзей пакараньне; тады адначасна Бог абяцаў паслаць людзям Збавіцеля. Але прайшлі доўгія стагодзьдзі, пакуль збылося Божае абяцаньне і Слова сталася целам і прабывала між намі. У часе тых доўгіх стагодзьдзяў чаканьня Бог некалькі разоў паўтараў у больш яснай форме сваю абяцанку праз вусны пракокаў, і прадсказаньні прарокаў падтрымоўвалі веру ў людзей ня толькі між выбранага калісь жыдоўскага народу, але і сярод паганскіх народаў. Абяцаньні аб прыходзе Збавіцеля і прароцтвы аб Мэсіі дзіўным чынам траплялі ў міталёгію, а нават у творы некаторых старых пісьменьнікаў. Паганскі паэт Віргілій успамінаў аб прыходзе Збавіцеля ў сваіх Эклёгах.

І вось калі надыйшла поўнасьць часу, паслаў нам Бог свайго Адзінароднага Сына... (Гал. IV, 4). Праз поўнасьць часу тут трэба разумець бег усяе гісторыі людзтва, скіраванае да прыходу Збавіцеля. Калі былі выкананы ўсе ўмовы і калі быў падрыхтаваны шлях, тады і зьдзейсьніў Бог сваё абяцаньне. А ўмоваў тых было шмат! Найперш трэба было, каб людзтва пазнала, што няма іншага збаўленьня, акрамя таго, якое сам Бог дасьць. І такі голас, голас безнадзейнасьці ў збаўленьне людзкімі і прыроднымі сіламі, рашуча пачуўся якраз тады, калі мела зьдзейсьніцца Тайна ўчалавечаньня Сына Божага. Гэта быў час, калі вялікая Рымская імпэрыя абыймала блізка ўвесь тагачасны цывілізаваны сьвет. У імпэрыі было шмат усяго; матэрыяльных прадуктаў і культурных здабыткаў хапала аж занадта, каб задаволіць чалавека, аднак людзей нічога не задавальняла; усюды панавала безнадзейнасьць і поўны маральны і духовы ўпадак. Тагачасныя рымскія філязофы даходзілі да роспачы і казалі: найгоршаю бядою для чалавека, гэта яму зьявіцца на сьвет, а найвялікшым шчасьцем для яго — умерці якнайхутчэй! Але ў вялічэзнай Рымскай імпэрыі было нябывалае да гэтага часу скупленьне шматлікіх народаў, адбывалася жывая вымена думак, а да таго ўсяго добра наладжаныя рымскія дарогі і шляхі зносін стваралі магчымасьць хуткага распаўсюджаньня новых ідэяў па ўсіх закутках імпэрыі. Вось-жа былі адчынены дзьверы ў сьвет і бязьмежныя шляхі чакалі, калі на іх зьявяцца апосталы — носьбіты Эвангельля. Тагачаснае жыцьцё грамадзян неабсяжнае Рымскае імпэрыі як у маральным сэнсе, так і ў духоным; як у сямейным, так і ў грамадзкім — вымагала безадкладнай перамены ў сваім ходзе. Або сьмерць, або жыцьцё, іншага выхаду ўжо ня было!

І вось тады «Анёл Габрыэль быў пасланы ад Бога ў горад галілейскі называны Назарэтам, к дзеве, заручанай мужу, іменем Язэп з дому Давідавага; імя-ж дзевы — Марыя. Анёл, увайшоўшы да яе, сказаў: Радуйся, поўная ласкі! Господ з табою; багаслаўлёная ты між жанчынаў. Яна-ж, як пачула, занепакоілася ад слоў яго, і разважала, што-б гэта было за прывітаньне такое. І сказаў ёй анёл: Ня бойся, Марыя, бо ты знайшла ласку ў Бога. І вось зачнеш у лоне і народзіш Сына, і назавеш яго імя: Ісус. Ён будзе вялікі і Сынам Усявышняга назавецца і дасьць Яму Госпад Бог пасад Давіда, бацькі Яго; і будзе валадарыць над домам Якуба навекі, і валадарству Яго ня будзе канца. Марыя-ж сказала: Як гэта станецца, калі я мужа ня знаю? І адказаў ёй анёл у адказ: Дух Сьвяты найдзе на цябе, і сіла Усявышняга ахіне цябе, таму й тое што народзіцца Сьвятое назавецца Сынам Божым» (Лук. 1, 26-35). У гэтым мамэнце, у невялічкім палестынскім глухім гарадку, у беднай хаціне, на якую ніхто не зьвяртаў асаблівае ўвагі — там вырашалася доля сьвету. Дзіўныя Божыя пляны! Гэтая доля ўзложана на сумленьне сьціплае, простае і нікому ня ведамае дзяўчыны, Марыі — што яна адкажа на словы анёла? І яна ў сьвятой пакоры прамовіла: «Вось я слуга Госпада, хай мне будзе паводля твайго слова (Лук. 1, 38). Гэта быў мамэнт, калі гісторыя сьвету ступіла на новы шлях. На той шлях, на якім рыхтаваўся мост, што меў злучыць землю і неба, разарваныя непраходнай прорвай пасьля ўпадку ў грэх нашых прабацькоў.

Збавіцель сьвету стаўся сапраўднасьцю. Божая веліч і маестат, абражаныя людзкімі грахамі, будуць мець справядлівае задосыцьучыненьне — станецца яно на Галгоце.

Вось таму так урачыста ўсе нябесныя сілы віталі прыход на сьвет у Бэтлееме Ісуса Хрыста; нязьлічаныя анельскія хоры пяялі цудоўную песьню: «Слава на вышынях Богу, а на зямлі мір людзям добрае волі» (Лук. 2, 13).

Ад таго часу, ці хто гэтага хоча, ці ня хоча, але гісторыя людзтва стаецца ўсьцяж накіраванай да Хрыста. Ад калі Слова сталася целам, усё, усё на сьвеце імкнецца да Яго, але ня так, як у Старым Запавеце падрыхтаваўчым чынам да Яго прыходу, а ўжо як да ўцелаўлёнага Бога, да Богачалавека. Аднойчы, калі фарысэі прасілі Хрыста, каб забараніў сваім вучням праслаўляць Яго Імя, дык Ён ім адказаў: «Калі яны змоўкнуць, дык каменьні загалосяць» (Лук. XIX, 40). І так сапраўды было, ёсьць і будзе да канца сьвету! Богачалавека ўжо ніхто ня ў сілах зацьміць, ня прызнаць, жыць быццам яго зусім ня было... гэта немагчыма, бо Божае Слова сталася целам і жыло між людзьмі толькі нейкі час, гэта праўда, але Эўхарыстычны Хрыстос астаўся між намі назаўсёды...

І сапраўды, калі крыху глыбей разважым усё тое, што нам падказвае розум і што нам ставіць перад вачыма Божае Аб'яўленьне, а перадусім, калі прыглянемся да ходу гісторыі і асабліва гісторыі Царквы, дык усюды зможам выявіць прысутнасьць Хрыста ў сьвеце між усіх пластоў людзтва, як прыхільных Яму, любячых Яго, так і між тых, што стараюцца ня пырзнаваць Яго і ненавідзяць Яго. Усе яны, тым ці іншым спосабам, сьведчаць аб прысутнасьці між людзей Уцелаўлёнага Бога. Як нельга любіць таго, каго няма зусім, так і нельга ненавідзець няіснуючага. Прароцтвы Хрыста пад сымбалем галосячых каменьняў споўніліся, спаўняюцца і будуць спаўняцца аж да канца сьвету.

Бог выканаў верна свае абяцаньні і ўсё зрабіў, каб людзі маглі асягнуць вечнае шчасьце. Цяпер шлях да неба адчынены кожнаму, але кожны мусіць сам дабравольна йсьці па ім, бо Бог да сябе сіламоц ня цягне нікога. Ён хоча, каб людзі самі выказалі сваю свабодную волю ў імкненьні да Яго і цяпер абавязкам кожнага хрысьціяніна ёсьць і самому йсьці і ўсіх іншых вясьці да Бога дарогай праўды, любові і цнатлівага жыцьця. Калі хто гэтага ня робіць, не зьяўляецца сапраўдным хрысьціянінам. Ня йсьці шляхам, паказаным Хрыстом; ня жыць Хрыстовым жыцьцём, не старацца вясьці сьвету да Хрыста — гэта пярэчыць самой сутнасьці хрысьціянства і самому характару хрысьціяніна. Як сам Хрыстос кажа: ня можна служыць двом паном (Мат. VI, 24). Ня можна быць з Хрыстом праз прасьвяту, быць апранутым унутрана Ягонай істотай праз хрышчыньне, і адначасна ня быць з Ім ува ўсіх Ягоных інтарэсах для перараджэньня чалавецтва і збаўленьня гэтага-ж чалавецтва — гэта дзьве супярэчнасьці! Нажаль на працягу доўгіх стагодзьдзяў хрысьціяне часта жылі гэтай супярэчнасьцю. Таму гэтак дрэнна сягоньня ўва ўсім сьвеце!

Толькі гутарыць аб Хрысьце; час-ад часу ўспамінаць аб Ім праз прывычку — гэта нішто. Трэба йсьці да Хрыста ўсім сваім жыцьцём. А дарога да Хрыста, гэта дарога збаўленьня ўсяго сьвету і яна значыцца сонечна яснымі цнотамі: верай, надзеяй і любоўю.

Перш-на-перш трэба чалавеку глыбокае і непахіснае веры ўва ўсе аб'яўленыя праўды. Бяз веры нічога ня зробім, бо без яе ўсе Тайны хрысьціянства будуць для нас малазначнымі. «Бяз веры немагчыма падабацца Богу» (Жыд. 11, 6). кажа ап. Павал. Толькі моцная і жывая надпрыродная вера можа быць важным дзейнікам у адраджэньні людзтва. А бяз надпрыроднае веры ў грамадзтве зьяўляецца жудасны тэрор, як гэта можна бачыць на кожным кроку ў тых дзяржавах, дзе да ўлады дарваліся бязбожнікі.

Поруч з верай павінна йсьці надзея. Дзе няма надзеі, там няма жыцьця, там ужо сьмерць распасьцірае сваё валаданьне. Надзея імкнецца да Праўды, паказанае сьвятлом сьвятое веры — да Праўды неасягальнае бяз Божай помачы, але зьдзейсьніванае пры помачы ўцелаўлёнага Сына Божага.

Але найбольш магутным дзейнікам у адраджэньні сьвету ёсьць любоў. Яна заўсёды была ёсьць і будзе жывою лучнасьцю між хрысьціянінам і Хрыстом, а так-жа ўзаемным лучнікам між хрысьціянамі. Хрысьціянская любоў — гэта тая сіла, без якое ў надпрыродным сьвеце нічога не асягальнае. Апостал Павал так характэрызуе хрысьціянскую любоў: «Калі-б я гаварыў людзкімі мовамі і анельскімі, а любові ня меў, то я медзь зьвінячая і цымбалы гудзячыя. Калі-б я меў дар прароцтва і ведаў усе тайны, і меў ўсякае пазнаньне, і меў усю веру, так што мог-бы і горы перастаўляць, а любові ня меў, то я нішто. І калі-б я раздаў усю маемасьць, і аддаў маё цела на спаленьне, а любові ня меў, то мне усё гэта ня прышло-б на карысьць» (І Кар. XIII, 1-3).

Вера, надзея, любоў — гэтыя багаслоўскія цноты зьяўляюцца для хрысьціяніна, як і для ўсяго сьвету, асноваю для адражэньня людзтва. Яны даны нам загадам і прыкладам уцелаўлёнга Сына Божага і таму іх неабходна практыкаваць з тою шчырасьцю, з якою гэтага хоча Сам Боскі Настаўнік. Розум асьвечаны верай, перакананьне прынятае надзеяй і сэрца агрэтае любоўю — вось шлях нашага жыцьця. Гэта адзіны шлях да нашага грамадзкага і асабістага адраджэньня і збаўленьня нашых душ.

**а. Я. Тарасэвіч.**

# Малітва да Непарочнае Дзевы Мары ў Марыйскім годзе Уложыў Сьвяцейшы Айцец Пій XII

О Марыя, непарочная Маці Ісуса і наша Маці, захопленыя зьзяньнем Тваe нябеснае красы і пранятыя сучасным непакоем. Мы імкнёмся ў Тваe абыймы, маючы пэўнасьць, што ў Тваім любячым сэрцы знойдзем заспакаеньне нашых шчырых жаданьняў і захарону перад бурамі, якія налягаюць на нас з усіх бакоў.

Мы прыгнобленыя нашымі грахамі і ўпадаем пад цяжарам нязьмернае бядоты, аднак мы падзіўляем і выхваляем бязьмежнае багацьце найвышэйшых дараў, якімі напоўніў Цябе Бог больш чым каго колечы з чыстых сатварэньняў ад першае хвіліны Твайго запачацьця аж да таго дня, калі Цябе ўзуў на неба і ўкаранаваў на Валадарку сьвету.

О крыштальначыстая крыніца веры, заспакой, смагу нашага духа вечнымі праўдамі; о духмяная лілея сьвятасьці, напоўні нашае сэрца Тваім нябесным пахам; о пераможніца над злом і сьмерцю, натхні нас глыбокім абрыджаньнем да граху, які робіць душу агіднаю Богу і нявольніцаю пекла!



Пачуй любая Маці, крык ратунку, які ў гэтым, прысьвячаным Табе Годзе, уздымаецца да Цябе з сэрца кожнага верніка. Зглянься на нашыя балючыя раны. Зьмяні сэрцы злых; асушы сьлёзы ўдручаных і прыгнобленых; пацеш бедных і малых; згасі нянавісьць; захавай у моладзі цьвет чыстасьці; барані Сьвятую Царкву; зрабі, каб усе адчулі заахвоту да хрысьціянскае дабраты. У Тваім імені, водгульле якога сугучна разьлягаецца на небе, павінны ўсе людзі пачуваць сябе братамі, а народы — сябрамі аднае зялікае сям'і, над якой зьзяла-б сонца сапраўднага ўсеагульнага міру.

Прыймі о салодкая Маці, нашы пакорныя малітвы і здабудзь нам перадусім мягчымасьць, каб аднаго дня нам было дазволена падзяліць з Табою вечнае шчасьце і перад пасадам Найвышэйшага паўтараць той гымн, што сёньня разьлягаецца на зямлі ў пахвале перад Тваімі аўтарамі: Ты ўся прыгожая. Марыя! Ты ёсьць слава, радасьць і гонар нашага народу! Аман.

# Пачатак Марыйскага году ў Рыме

«Няхай жыве непарочная Дзева!» — гэтым магутным клічам рымляне віталі сёлета 8-га сьнежня пачатак Марыйскага Году. Гэтым клічам, які вырываўся з сотняў тысяч грудзей, яны выказвалі сваe найглыбейшыя пачуцьці любові і адданасьці да Нябеснае Маці.

Марыйскі Год — гэта Год вялікіх ласкаў і надзеяў. У часе, калі ўваесь сьвет стаіць перад аднюю з найбольшых катастрофаў у гісторыі чалавецтва, хрысьціяне з асаблівай шчырасьцю аддаюцца пад апеку Тае, аб якой сьпяваецца ў цэрквах, што Яна ёсьць «заступніцтва хрысьціян непасаромленае, хадайніца да Стварыцеля незапярэчная». І мы верым, што Яна, як добрая Маці, не пакіне сваіх верных дзетак і выбавіць іх ад няшчасьця.

Сьвяткаваньне пачатку Марыйскага Году ў Рыме адбылося з асаблівай велічнасьцю. Цэнтрам усіх урачыстасьцяў была базыліка т. зв. Сьвятое Марыі Большае — гэта найстарэйшая ў сьвеце царква ў чэсьць Багародзіцы, пабудаваная папаю Лібэрыям у 4-м стаг. Ужо тыдзень перад сьвятам Непарочнага Зачацьця кожны вечар там адбываліся багаслужэньні з удзелам сьвятароў і сэмінарыстаў розных нацыянальнасьцяў. Вечарам 7-га сьнежня, гэта значыць напярэдадні сьвята, служылі сьвятары і сэмінарысты з усходніх калегіяў: абісынскае, грэцкае, мароніцкае, расейскае, румыскае, сірыйскае і украінскае. Багаславенства Няйсьвяцейшымі Дарамі адправіў Я. Эм. кардынал Піцардо ў асысьце шматлікіх япіскапаў і высокіх дастойнікаў розных абрадаў. Я меў гонар прысутнічаць разам з іншымі студэнтамі з розных калегіяў на гэтай урачыстасьці. Зрабіла яна на ўсіх незацёртае ўражаньне. Аднак мне было крыху сумна, бо халеся-б, каб бачыць тут сэмінарыстаў з беларускае калегіі.

Урачыстасьць скончылася позна і хоць усе былі змучаныя, але радасныя. Назаўтра раніцай ува ўсіх рымскіх цэрквах Службы Божыя правіліся з асаблівым уздымам. Старая царква сьв. Атаназія пры грэцкай калегіі ў гэты дзень зьзяла ўсёю тою веліччу, якую можа даць бізантыйскі абрад. Самая царква ёсьць адною з тых рымскіх цэркваў, што мае шмат успамінаў, зьвязаных з гісторыяю Беларусі. Тут некалі ў 1595 годзе япі-

скапы Пацей і Тэрлецкі, пасьля прысягі вернасьці намесьніку ап. Пятра, служылі ўрачыста архірэйскую Літургію. Тут потым маліліся і адпраўлялі багаслужэньне Руцкі, Корсак, Календа, Падбярэскі і шмат іншых беларускіх рэлігійных дзеячоў і змагароў за царкоўную еднасьць. У 1867 г. гэтая царква была цэнтрам урачыстасьцяў зьвязаных з кананізацыяй сьв. Ёзафата. Дык ня дзіва тады, калі ў гэтай сьвятыні гучэлі словы канона: «... прыгноблены шматлікімі напасьцямі, да Цябе (Багародзіца) прыбягаю, ратунку шукаючы»—мае думкі зьвярнуліся да Багародзіцы з гарачай малітвай: «Найсьвяцейшая Дзева, наша Нябесная Маці, калі-ж мы зможам зноў Цябе славіць у вольнай Беларусі...»

Пасьля заканчэньня багаслужэньня ў царкве, ўся калегія выбіраецца на Пьяцца ді Спанія, дзе адбываюцца іншыя ўрачыстасьці на чэсьць Багародзіцы. Сто гадоў таму папа Пій IX паставіў на гэтым пляцы калённу з статуяй Багародзіцы. Ад таго часу кожны год у сьвята Непарочнага Зачацьця рымляне прыходзяць туды, каб зложыць Нябеснай Валадарцы дар з кветак. Сёньня гэтая традыцыйная «кветачная пашана» адбываецца больш урачыста чым заўсёды. Тысячы людзей розных нацыяў, расаў і ўзростаў запаўняюць пляц; кожны нясе букет, або вянок у руках; ідуць паадзіночна, ідуць і цэлыя працэсіі, сьпяваючы кожны сваею роднаю моваю гымны на чэсьць Багародзіцы.

Раптам нехта з супрацiўнага кутка пляцу выпускае чараду галубоў. Птушкі, спуджаныя вялікім натаўпам, спачатку падаюцца ў бок, але пасьля, быццам раздумаўшыся, вяртаюцца да калённы і робяць навокал статуі Багародзіцы адзін круг, другі, трэці... Увесь народ у захапленьні. Нехта крыкнуў: « Viva l'Immacolata ! » (Хай жыве Непарочная!). Тысячы грудзей адразу падхопліваюць гэты кліч і ён магутным рэхам разьлягаецца амаль па ўсім горадзе.

А тымчасам людзі ўсё йдуць ды йдуць бясконечным гужам і складаюць свой прыгожы дар на падножжы калённы; з кветак вырастае цэлая чароўна красачная гара...

Найбольшая ўрачыстасьць гэтага дня адбываецца па паўдні. А 4-ай гадз. Сьвяцейшы Айцец Пій XII выехаў з Ватыкану, каб асабіста распачаць Марыйскі Год у базыліцы сьв. Марыі Большай. Перад гэтым аднак, ён зажадаў удзельнічаць у тым усенародным ушанаваньню Багародзіцы і зложыць свой вянок кветак перад Яе статуяй на Гішпанскім пляцы і туды накіраваўся ягоны самаход з суправаджэньнем. На пляцы ён выйшаў з самаходу, палажыў свой вянок на гору кветак і, стаўшы на калені, маліўся некалькі хвілін. Пасьля малітвы ён прывітаўся з бурмістрам Рыму і прадстаўнікамі ўраду, якія яго тут спатыкалі і пасьля паехаў далей у базыліку сьв. Марыі Большай. Я стаяў недалёка ад калённы і бачыў зблізка ўвесь гэты кароткі, але як-жа глыбокі зьместам абразок. Ня трэба хіба казаць, што ён пакінуў незабыўнае ўражаньне. Навокал тысячы людзей і на пляцы лунае гучнае: « Viva il Papa », « Viva l'Immacolata ! » сярод гэтага мора людзей адна постаць у белым на каленях, затопленая ў малітве. Нельга было адарваць зору ад аблічча Сьвяцейшага Айца. Гэтае худое і паважнае аблічча зьзяла нявымоўнай дабратою, якое я яшчэ ня бачыў ні ў кога, яно прыцягала мяне быццам магніт.

Пасьля адезду Сьвяцейшага Айца, я разам з двумя сябрамі грэкамі, пастанаўляем дабрацца да базылікі сьв. Марыі Большай. Аднак выявілася, што гэтую пастанову ня лёгка выканаць. Нармальна можна было-б туды дайсьці за якіх 20 мінут, але ў гэты дзень усе вуліцы ў тым кірунку былі папросту запоўнены людзкою масаю. Дык плянуем ісьці бочнымі вулічкамі. Сьпяшымо як толькі можам. Нарэшце спацеўшыя даходзім да мэты і ўжо бачым перад сабою купал базылікі, асьветлены тысячамі электрычных лямпак, але... дабрацца нават да фронту базылікі няма найменшае магчымасьці, бо і пляц перад базылікай і прылягаючыя вуліцы затрамбаваныя людзьмі. Прыходзіцца здаволіцца тым, што праціскаемся як мага бліжэй да дарогі, якою будзе вяртацца назад Сьвяцейшы Айцец. Праз мэгафон можна сачыць за багаслужэньнем. Вось уканцы разьлягаюцца словы малітвы Сьвяцейшага Айца да Непарочнае Дзевы. Усе слухаюць уважна. Пасьля малітвы ўсе пачынаюць сьпяваць гымн на часьць Багародзіцы — магутны гэты сьпеў у выкананьні нязьлічанага натаўпу. Раптам перад базылікай разьлягаецца кліч: « Viva il Papa ! » Гэта Сьвяцейшы Айцец выходзіць на балькон даць багаславеньне « Urbi et Orbi » (Гораду і сьвету»). Праз некалькі хвілін зноў разьлягаецца той самы кліч. Пасьля багаслужэньня Сьвяцейшы Айцец выходзіць з базылікі і зьбіраецца ў адваротную дарогу ў Ватыкан. Праз колькі хвілін каля нас праехала аўта, а з яго акна відаць добрае і так уім дарагое аблічча і рука, узьнятая да багаславеньня...

Позна ўжо. Вяртаемся дамоў, а падарозе спатыкаем нязьлічаныя групы людзей, сьпяваючых гымны на чэсьць Прачыстае. Усе цэрквы ярка асьветлены і поўныя народу. На Гішпанскім пляцы ўсё яшчэ складаюць Найсьвяцейшай Дзеве «кветачную пашану»...

Позна вечарам, перад сном выходжу на тэрасу грэцкае калегіі, каб яшчэ раз глянуць на Рым. Усюды супакой і цішыня. Насупраць узносіцца магутны купал сьв. Пятра, а на лева ад яго зарысоўваюцца ў начным суценьню сілуэты некалькі большых будынкаў, больш нічога ня можна адрозьніць. Вечны Горад сьпіць. Толькі на ўскраю

гораду на Монтэ Марыё зіхацяць агні. Гэта Найсьвяцейшая Дзева « Salus Populi Romani » (Збауленьне Рымскага Народу) вартуе сьпячы горад і народ.

**А. Надсон.**

# Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі

**(Працяг).**

### НА САЛОЎКАХ

У маліцьвенным настрої 30 дзён мінула вельмі хутка і на заканчэньне рэкалекцыяў уладыка Балеслаў прыняў пастанову: аддаць сябе поўнасьцю Богу. У адзін мамэнт стала на душы лёгка і нават радасна. Нэрвы пачалі супакойвацца і вартаўнікі дзівіліся, адкуль у зьняволенага, не зважаючы на ўвесь турэмны савецкі жах, можа зьявіцца радасны настрой? Бог адзін ведае чаму, але ад таго часу і дапросамі ня мучылі, выклікалі толькі адзін раз і, канчаткова пераканаўшыся, што нельга знайсьці ніякіх прычын, каб правесьці хоць які колечы суд, прыгаварылі завочна пастановаю ГПУ на тры гады ў Салавецкі лягэр і аб гэтым паведамілі на самым зборным пункце, дзе ўжо было сабрана шмат зьняволеных, прызначаных да высылкі ў розныя лягэры.

Па дарозе ў Салоўкі эшалон на кароткі час затрымаўся ў Ленінградзе. Тамтэйшыя вернікі даведаўшыся, што між ссыльнымі знайходзіцца біскуп Слосканс, прынесьлі яму крыху харчоў; нават ленінградзкі каталіцкі біскуп Антоні Малецкі змог дабіцца пабачаньня і пагутарыць, зразумела, праз краты.

Прыехаўшы на Салавецкі перасыльны пункт, усе зьняволеныя мусілі распачаць сваё «новае жыцьцё» новымі мукамі; усіх зьнямоганых доўгаю дарогаю мучылі каля трох гадзін і муштравалі крычаць гурмам, прынятыя ў лягэры прывітаньні, потым пагналі ў барак але барак быў перапоўнены. Канваіры доўга не цэрэмонячыся закамандавалі: «На рабро»! Мейсца падвоілася і хапіла для новых, праўда цяпер ляжалі ўсе, як селядцы ў бочцы. Атмасфэра ў бараку была здушаная і смуродная. Часта ўначы рабілі трывогу, выганялі ўсіх на двор з рэчамі і па якіх васьмі мінутах заганялі ўсіх назад у барак.

У перасыльным пункце было нямала каталіцкіх сьвятароў, між імі былі і беларусы, было такжа двох грузінскіх сьвятароў, адзін лацінскага і адзін усходняга абраду. Праваслаўных сьвятароў было шмат і гэта былі лепшыя праваслаўныя духоўныя. Супольнае цярпеньне зьнішчала рэлігійныя ўпярэджаньні, якія вякамі засявалі ў душах сваіх падуладных царскія ўлады і некаторыя праваслаўныя самі зьбліжаліся да каталіцкіх сьвятароў, якія трымаліся быццам адною сям'ёю. Праваслаўным падабалася каталіцкае прывітаньне «Пахвалёны Хрыстос!» і яны запрапанавалі ўвесьці ўзаемнае прывітаньне між праваслаўнымі і каталіцкімі сьвятарамі: «Хрыстос між намі!» з адказам на яго: «Ёсьць і будзе!» і гэта было прынята.

Адносіны лягэрных уладаў да зьняволеных былі вельмі жарстокія. Можна было трапіць у карцэр за найменшае глупства.

Прыпадкам уладыка Балеслаў, замятаючы панадворак ля свайго лягэру, убачыў праз дрот у суседнім жаночым лягэры сястру кс. Васілеўскага, сваю парахвіянку з Магілёва і пачаў гаварыць ёю, вартавы дагледзеў гэта і неадкладна ўладыку пакарана карцарам на тры дні.

З перасыльнага пункту дня 6.IV. 1928 г. выслана 13 сьвятароў на ўхтынскі тракт; між імі было толькі двох каталіцкіх, у тым, ліку ўладыка Балеслаў. На дарогу далі баханак хлеба і крыху салёнае рыбы. У дарозе прышлося спатыкаць Вялікдзень 1928 г. Адзін з сьвятароў захаваў на гэты дзень кусочак каўбасы і ўся група хоць такім маленькім ласункам азначыла Вялікае Сьвята. Затрымалі групу на 103 км., дзе быў толькі адзін барак. Заданьнем зьняволеных было: днём цяжка працаваць, а ноччу сьцерагчы правіянт — значыць бязбожнікі маюць спэцыяльны давер да сьвятароў, праўда да крайнасьці нялюдзкі, не пакідаючы зусім часу на супачынак і на сон. Там першую Службу Божую правілі ў бараку; стол быў аўтаром, падстаўка да яек служыла чашаю, а патэнаю было звычайнае дно ад кансэрвы, аплаткі мелі ў запасе, а віно выраблялі з разынак, прысланых у пакунку.

Аднойчы ўладыку Балеслава выслалі з дастручэньнем на пост 111. Камандант таго посту быў нядаўна асочным у Лепелі і ведаў добра шматлікіх беларускіх каталіцкіх сьвятароў, бо між іншым сам удзельнічаў у арышце і ссылцы кс. Язэпа Барадзюлі на Салоўкі.

Як толькі пачалася вясна, пачалі ганяць па шляху доўгія канвоі зьняволеных на выканчэньне дарогі. Навокал грунт быў багністы і па ім ганялі паўмёртвых людзей з бярвеньнямі на плячах. З бярвеньняў трэба было ўкладаць маставую, але яна як бачыш тапілася ў багне; на яе клаўся новы насьціл і так з пяці ці шасьці затопленых насьцілаў уканцы рабілася дарога. Колькі ля тых насьцілаў палегла людзей, толькі Бог адзін ведае.

Выснажаючая праца, холад, нястача вопраткі і ежы моцна падкасілі здароўе ўладыкі Балеслава. Ён паважна захварэў, але далей мусіў вартаваць мяшкі з аўсом і правіянтам, якія перш пераносіў на склад. І там у складзе на мяшку аўса знайшоў

уладыку успомнены сьвятар Язэп Барадзюля, які выконвау абавязкі паштара на усім Ухтынскім тракце 175 км. Ён быу знаёмы з адным мэдыкам і гэты апошні дапамог перавезьці уладыку у перасыльны лязарэт. Між іншым ад таго мэдыка уладыка даведауся, што у лязарэце быу нядауна беларускі каталіцкі сьвятар Язэп Белагалловы, якога некалькі дзён перад тым вывезьлі з Салоукау і сълед па ім загінуу. У перасыльным лязарэце уладыка Балеслау прабыу нядоуга, хутка яго перавезьлі на Папоу абток. Там ён спаткауся з беларускім сьвятаром Казімерам Юршаном, быушым парахам у Бабіновічах, які моцна цярпеу ад цынгі. На Паповым абтоку уладыка так-жа не затрымауся доуга, бо яго здароуе было так падупаушым, што лекары прызналі інвалідам і адправілі у лязарэт на Салавецкі абток.

Першае знаёмства з Салавецкім лязарэтам нічога добрага не варажыла. Людзей у ім было толькі, што ледва знойдзена мейсца на карыдоры і толькі па некалькі днёх, адзін з лекарау, сам зьняволены праваслауны іероманах, пастараўся знайсьці для уладыкі асобную камэру. Хоць лязарэт мала чым розьніуся ад звычайнага лягэру, але усё-ж у ім людзі маглі прынамся врыху супачыць і гэта было можа найлепшым лекам.

Калі уладыка Балеслау пачау ачуньваць, яго прызналі здаровым і выслалі у «папоускую роту», у каторай пераважалі духоуныя. Ім пераважна даручалі службу старажаваньня. Уладыцы прыдзялілі камэру, дзе ужо было 8 каталіцкіх сьвятароу. Супольнае жыцьцё духоуных дазволіла наладзіць рэгулярныя багаслужэньні. Спачатку яны адбываліся у Гэрманаускай капліцы, а пасьля забароны, дзесь уканцы кастрычніка 1928 г., штодзенна правіліся над камэрай пачынаючы ад поуначы да 5 гадз. раніцы. Рэвізіяу уначы не рабілі, а карыдоры вартавалі зьняволеныя, якія спрыялі сьвятаром.

Праваслауныя архіэрэі, якія былі у «папоускай роце» спачатку адпраулялі Службу Божую у праваслаунай царкве, што была за Крамлём, а пасьля яе закрыцьця у 1928 г. больш ня служылі. Да закрыцьця як каталіцкае, так і праваслаунае цэркваў прычынілася славутая «бязбожная тройка» пад старшынствам нейкага Пятрова, якая зьявілася на Салоуках у кастрычніку 1928 г., зрабіла вобыск у бараках сьвятароу, шукаючы літургічных кнігау і прыладау.

У 1929 г. начальнік лягэру пачау перакідаць сьвятароу у Троіцкую штрафную камандзіроуку на абток Анзэр. Уладыку Балеслава туды перавезьлі 30.I.1929 г. Летам ужо там было 24 духоуных, з іх 22 было каталіцкіх, адзін праваслауны япіскап і адзін украінец юрысдыкцыі м. Ліпкаускага. Там было тры баракі: адзін пуставау без вакон і без дзьвярэй, другі з закратаванымі вокнамі быу прызначаны для зьняволеных, трэці барак быу падзелены на дзьве часьці, адна была прызначана для начальства, а другая для зьняволеных і была так перапоуненая, што людзі таукліся, як селядцы у бочцы. Калі прывезена уладыку, дык у тым бараку было толькі адно мейсца на нарах, але вольнае яно было толькі таму, што яго перш займау праваслауны варонежскі архіяпіскап Пятро (Зьверау), які 21.I захварау на тыф і быу высланы у больніцу, дзе хутка памёр, дык іншыя баяліся займаць тое мейсца, а уладыка Балеслау заняу ахвотна. Агулам на Салавецкіх абтоках уканцы 1929 г. было 38 каталіцкіх духоуных і 425 праваслауных.

Праца у Троіцкай камандзіроуцы была цяжкая. Трэба было валачыць бярвеньні на плечах. Каб аблягчыць сабе гэтую працу сьвятары зладзілі нешта падобнае да воза і самі яго цягалі, празваушы гэты вынахад ВрИДЛо (Временно Исполняющий Должность Лошади). І у гэтым штрафным мейсцы каталіцкія сьвятары наладзілі рэгулярную адправу Службы Божае (зразумела тайна) і да таго мелі ужо сапраудную чашу, якую хавалі у выдаубленым пні. Агенты ГПУ надзвычайна пільна сачылі, каб злавіць каго у часе багаслужэньня, або каб знайсьці літургічныя кнігі і прылады, з гэтаю мэтаю часта рабілі рэвізіі, але нічога не знайходзілі, нават не заўважвалі адсутнага сьвятара, бо ягонае мейсца заусёды займау хтось іншы.

Матэрыяльнае палажэньне сьвятароу у лягэры было неаднолькавым, бо некаторыя атрымоувалі пасылкі, а некаторыя нічога. Лягэрныя харчы былі вельмі нездавальняючыя. Вось-жа на агульнай нарадзе усіх зьняволеных там сьвятароу, пастаноулена увесьці сапраудную хрысьціянскую супольнасьць, у якой усё, што каму прысылалася, ставалася агульнаю уласнасьцю і аддавалася выбранаму старасьце, які меу абавязак усё дзяліць між усіх. Старастаю быу выбраны уладыка Балеслау. Потым старасьце лягэрныя улады даручылі абавязак прызначаць сьвятароу на працу. Гэта давала магчымасьць вызваліць хоць на некаторы час хворых і зьнямоганых, заступаючы іх кім іншым у працы.

Праца была розная, але заусёды цяжкая. Трэба было або рэзаць дрэвы і насіць бярвеньні на плячох у пырзначанае мейсца, або зімою раскопваць мейсца пад новыя баракі - зямлянкі, высякаючы мярзьляк быццам у каменяломе. Працаваць трэба было па 16 гадзін на марозе. Пасьля такое працы кожны быу так зьнямоганы і адубеушы, што ня мог ані есьці, ані піць.

Мэдыцынскі агляд летам 1930 г. сьцьвердзіу, што уся група сьвятароу мела хворыя нэрвы і запаленьне цяглічау сэрца (міокардід) — гэта значыць, што усе былі напоуінвалідамі. Але такое сьцьверджаньне нічуць ня зьменшыла вымогау лягэрных уладау адносна зьняволеных, наадварот, быццам на злосьць сьвятаром было забаронена зьвяртацца да лекарау спэцыялістау, якія былі на

Салоўках, забаронена насіць сутаны і пад. Праўда да іншых зьняволеных адносіны былі яшчэ больш жарстокія, але іх апісаньне пераходзіць датэму гэтага артыкулу.

У тым акіяне зьдзеку і цярпеньня, калі так можна назваць Салоўкі, было прыкра бачыць, што побач зьдзеку, які рабіла лягэрная адміністрацыя, самі зьняволеныя часта пагоршвалі свой стан. Мужчынскія і жаночыя баракі заўсёды былі агароджаныя дротам і ўсякія зносіны між імі былі забаронены, але міма забароны там шырылася такая распуста, што яе тут ня мейсца апісваць. Дзе былі зьняволеныя манашкі, дык сваім прыкладам і сапраўды анельскаю чысьцінёю падтрымоўвалі іншых ад упадку — гэта была вялікая апостальская праца ў жаночых бараках і ўладыка Балеслаў з радасьцю даведваўся, што беларускія жанчыны, і між імі некаторыя парахвіянкі ўладыкі, вызначался ня менш ад пабожных манашкаў сваею прыкладнаю чысьцінёю і дабрадзейным уплывам на іншых. Але ў іншых асяродзьдзях упадак быў страшны.

Жарстокасьць кіраўнікоў Салавецкага лягэру агульна ведамая, але ў імя праўды трэба сказаць, што між імі часам, (праўда вельмі рэдка) траплялія людзі, якія яшчэ ня зусім страцілі сваю людзкасьць. Аднойчы пры рэвізіі пачкі, якую прыслалі сьвятару, агент ГПУ знайшоў пляшку віна і не забраў яе, здавальняючыся выясьненьнем, што яно патрэбна для падтрыманьня здароўя і для апэтыту.

Сьмяротнасьць у лягэры між зьняволенымі была вельмі вялікая, але на мейсца памёршых, заўсёды прысылаліся новыя транспарты і лягэр заўсёды быў перапоўнены. У 1929 г. на абтоку Анзэр з 1000 зьняволеных памерла 700. Здароўе ўладыкі Балеслава ў 1930 г. было моцна занянаўшы ад зьнясіленьня і выснажэньня.

### Некалькі дзён на свабодзе.

Дня 17 верасьня 1930 г. кончыліся тры гады кары ўладыкі Балеслава. Ён загадзя выслаў дэклярацыю ў управу лягэру з просьбай аб звальненьні. 13 кастрычніка яго паклікалі ў канцылярыю лягэру і казалі зьбірацца «з рэчамі» да адʼезду. Вызваленьне не абышлося бяз прыгодаў, то з транспартам былі розныя цяжкасьці, то з частым кантролем, дакучалі на кожнай затрымцы. Але ўканцы ўладыка быў у цягніку, які ехаў у кірунку Ленінграду.

Дзіўнае ўражэньне перажывае чалавек выходзячы са зьняволеньня, тымбольшае яно, калі выходзіцца з такога лягэру, якім ёсьць Салавецкі. Спачатку чалавек ня верыць сам сабе, што ўжо на волі. Такое ўражэньне меў і ўладыка Балеслаў. Толькі пераехаўшы Петразаводск, дзе спыніліся безнастанныя кантролі дакумантаў у цягніку, ён асвоіўся з думкаю, што знайходзіцца такі сапраўды на свабодзе.

Прыехаўшы ў Ленінград, уладыка накіраваўся ў калішняе памешканьне біскупа Малецкага, але там яго не знайшоў і прыслуга ня раіла йсьці далей шукаць яго, бо было позна і ён быў хворы. Назаўтра раніцаю, адправіўшы Службу Божую, ўладыка Балеслаў пастукаў у дзьверы біск. Малецкага, але той убачыўшы свайго старога знаёмага, апраненага яшчэ на салавецкі лад, так спужаўся, што ўладыка адразу ўбачыў пад якім тэрорам жыве каталіцкае духавенства на волі ў СССР. Ня шукаючы больш сваіх знаёмых, таго-ж 31-Х вечарам выехаў у Магілёў.

У міжчасе Магілёўскаю архіепархіяю кіраваў гэнэральны вікары кс. Пятро Аўгло. Гэтага сямідзесяцігадовага сьвятара агэнты ГПУ тэрорам і подступам змусілі былі падпісаць асьведчаньне, што ў СССР няма рэлігійнага прасьледаваньня і апублікавалі тое асьведчаньне ў прэсе.

Уладыка Балеслаў прыехаў у Магілёў раніцаю 1-XI, якраз на сьвята ўсіх Сьвятых. Гэнэральны вікары, хоць атрымаў перш тэлеграму, што «прыязджае Балеслаў», як убачыў перад сабою свайго біскупа, проста вачом сваім ня верыў. Уладыка Балеслаў адправіў Службу Божую і пасьля яе ня меў ні хвіліны спачынку; пачалі прыходзіць людзі са сваімі клопатамі і жалямі. Першы прыйшоў гэнэральны вікары і, стоючы на каленях перапрашаў за сваё асьведчаньне і расказваў, што яго агэнты мучылі тры дні, потым абяцалі адчыніць каталіцкія сьвятыні і звольніць сьвятароў ад падаткаў, калі падпіша, падрыхтаваную імі паперку, дык уканцы падпісаў, але пабачыўшы, як бальшавікі крывадушна выкарысталі ягонае асьведчаньне, ня меў супакою сумленьня і быў выслаў у Рым просьбу, каб яго звольнілі ад абавязку гэнэральнага вікарага. Але з Рымам ня было ніякае лучнасьці і таму адказу адтуль нельга было спадзявацца. На шчасьце пасьля доўгага чаканьня прыйшла прыватная картка, падпісаная здаецца Я. Э. Д'Эбріні, у якой пісалася, каб спакойна служыў далей.

Перш чым разьбірацца з іншымі справамі, уладыка Балеслаў мусіў атрымаць дакуманты для права пражыцьця ў Магілёве, дык неадкладна пайшоў у ГПУ. Там яго сустрэлі са зьдзіўленьнем:

— А, дык вы ўжо на свабодзе!

—Вось як бачыце.

— А што вы думаеце цяпер рабіць?

— Перш-на-перш прыйшоў прыпісацца і дастаць ад вас патрэбныя для пражыцьця ў Магілёве дакуманты.

— Ну, гэта цяпер не такая простая справа, бо вы ўжо сталіся фігурай для каталікоў і для ўсіх контрэвалюцыянэраў. Падумаеш, вярнуўся з Салоўкаў!

— Гэта значыць, што ніякае правіны за мною няма.

— Відаць, што сталася нейкае непаразумень-

не з вашым вызваленьнем. Вось можа хочаце выехаць у Смаленск, дык дамо вам патрэбныя дакуманты і аплоцім падарожжа.

— Не, хачу астацца ў Магілёве, а калі я тут непажаданы, дык можаце мяне арыштаваць і выслаць, куды вам падабаецца.

— Гм, калі так, дык пачакайце крыху.

Пасьля паўгадзіннага чаканьня на карыдоры, уладыку паклікалі ў канцылярыю і сказалі прыйсьці па канчатковы адказ на наступны дзень. Назаўтра, адправіўшы у катэдры Службу Божую і сказаўшы казаньне, уладыка зноў пайшоў у ГПУ. Там пасьля доўгіх і бясплодных «дыспутаў» адносна адміністраваньня Царквы, начальнік ГПУ сказаў уладыцы Балеславу, што ён можа астацца ў Магілёве, але не павінен нікому гаварыць, што яму прапанавалі выехаць у Смаленск. Дакумантаў аднак не далі ніякіх.

Агульнае палажэньне Каталіцкае Царквы на Беларусі ў той час было больш чым сумным. Сьвятыні масава закрываліся, сьвятары арыштоўваліся, бо вернікі, аграбленыя калектывізацыяю і прыгнобленыя тэрорам, не маглі аплочваць празьмерных падаткаў за карыстаньне з сьвятыняў і ня было ніякае магчымасьці знайсьці якую раду.

### Паўторны арышт.

У суботу 9-га лістапада 1930 г. каля 11 гадзіні вечара азброеныя агэнты ГПУ йшлі ў кірунку магілёўскае катэдральнае вежы, дзе тымчасова пражываў уладыка Балеслаў. Трасьці там ня было чаго, дык доўга не затрымоўваючыся, яны арыштавалі уладыку і прывялі ў мяйсцовую турму. Адтуль хутка пераслалі ў Менск, дзе ўжо старшынёй ГПУ замест Гродіса быў Шапіра.

У Менску турма была страшэнна перапоўнена, гэта быў час разгрому беларускае нацдэмаўшчыны і дакончваньня прымусовае калектывізацыі. Уладыку Балеслава адведаў 10-XII адзіны тады у Менску каталіцкі сьвятар парах сьв. Сымона і Алены а. Шаціла. Праз падвойныя краты ён расказваў са сьлязамі ў вачох, што рэлігійнае палажэньне ў Менску станавілася неімаверна цяжкім. Трэба было плаціць 5.000 рб. падатку за сьвятыню і 7.000 рб. за сябе самога і ня было ведама, дзе назьбіраць такія сумы. Агэнты ГПУ сачылі за кожным ягоным крокам і ладзілі розныя правакацыйныя лавушкі, дык трэба было быць заўсёды гатовым да арышту. На разьвітаньне ён абяцаў прыслаць уладыцы пакунак, які падрыхтаваў на ўсякі выпадак для свайго арышту. На наступны дзень 11-XII уладыку адправілі ў Маскву, але на шчасьце перад самым ад'ездам атрымаў абяцаны пакунак ад а. Шаціль і меў з гэтага ў дарозе добрую падтрымку.

Між арыштаванымі ў Менскай турме уладыка Балеслаў стрэнуў некаторых знаёмых. У суседняй камэры быў парах з Лапойска а. Віктар Валентыновіч; гэты пажылы каталіцкі сьвятар быў высланы ў Сібір і там загінуў.

Падарожжа ў Маскву адбылося бяз ніякіх прыгодаў, але тое што прыходзілася бачыць па дарозе, было проста жудасным — доўгія транспарты дэпартаваных у Сібір цягнуліся праз усю дарогу бесканечным гужам. У Маскве уладыцы прышлося адведаць тамтэйшы МОК (Мужской Одиночный Корпус) і Бутырскую агульную турму. На другі ці трэці дзень бытнасьці уладыкі Балеслава ў Бутырках у агульную камэру, дзе ўжо было каля 200 зьняволеных, прыгналі новы канвой (здаецца з Арла). Між навапрыбыўшымі знайходзіўся калішні маскоўскі дзекан і парах у парахвіі сьв. Пятра і Паўла кс. Пятро Зелінскі, якога бальшавікі арыштавалі ў 1923 г. у зьвязку з працэсам архіб. Цепляка і ад таго часу пераківалі з аднаго гораду ў другі, з турмы ў турму. Уладыка знайшоў яму мейсца на нарах каля сябе. Там на нарах яны выспавядаліся адзін другому, далі адзін другому абсалюцыю, а на другі дзень дзекана Зелінскага выклікалі з рэчамі і пагналі няма ведама ў якую турму.

Сьледчыя савецкія ўлады і гэтым разам не маглі зладзіць ніякага судовага працэсу супраць уладыкі Балеслава, дык проста пастановаю ГПУ 19.XII.1930 г. выслалі ў Сібір. Пры частых пераківаньнях з турмы ў турму падчас падарожжа ў Сібір заўсёды адбываўся дакладны вобыск. Але ў Бутырскай турме уладыку абакралі крамольнікі, з якімі турэмныя ўлады ўмысна мяшалі іншых зьняволеных, каб абцяжыць і так цяжкае жыцьцё ў савецкай турме, але ў тых цяжкіх абставінах уладыка нават не маракаваў на зладзеяў, бо пасьля менш мучылі пры вобысках.

Першы этап падарожжа ў Сібір Масква — Сьвярдлоўск адбыўся ў вельмі цяжкіх умовах. Турэмны вагон з цяжкім смуродным паветрам і поўны паразітаў быў перапоўнены. Транспарт прыехаў у Сьвярдлоўск якраз наконадні Каляд 24-XII. Там уладыцы Балеславу некалькі разоў прапанавалі выехаць з Савецкага Саюзу, але на ўсе такія прапановы ён адказваў, што зьяўляецца біскупам Менскім і Магілёўскім і ня можа самавольна пакінуць свайго мейсца прызначэньня. Адкідаючы савецкія прапановы, уладыка заўсёды меў на ўвеце словы свайго кансэкратара: «Мы вас хіратанізуем на мучаніцтва і багаслаўляем на разважнасьць». Праўда ў тых цяжкіх абставінах разважнасьць была спалучана з вялікім цярпеньнем, бо аддаць жыцьцё было шмат лягчэй, як працаваць для славы Бога і Яго сьв. Царквы, на якую насядала такая зацятая варожая сіла!

У Сьвярдоўску на першы дзень Каляд, калі на дварэ трашчаў сібірскі мароз з ветрам, усіх зьняволеных выганялі на працу. Уладыка Балеслаў запратэставаў:

— Сёньня сьвята Нараджэньня Хрыста і, я

на працу не пайду, бо я ссыльны за рэлігійныя перакананьні.

І гэты аргумант падзейнічаў, агэнты ГПУ яго на работу не пагналі, але за кару перавялі ў камэру да крамольнікаў.

Вечарам зьняволеныя вярнуліся з працы інвалідамі, большасьць з іх мела паадмарожваныя вушы, рукі і нават ногі.

Кармілі ў сьвярдлоўскай турме вельмі дрэнна і ня было ніякае магчымасьці дакупіць штоколечы з ежы, бо ня было турэмнае крамы, дык голад адчуваўся вельмі моцна.

З Сьвярдлоўску 27-XII уладыку Балеслава перaслалі ў Іркутск і тут увесь новы транспарт зьняволеных пасадзілі ў камэры з выбітымі шыбамі і бяз нараў. Усім пагражала сьмерць ад марозу, дык аб'явілі галадоўку. Гэта памагло. На другі дзень усіх перавялі ў іншыя камэры, але за кару з камэраў выпускалі ў клёзэты толькі два разы на дзень, дык парашы ў камэрах былі перапоўненыя, лішне ўспамінаць які ад гэтага быў смурод і бруд. І тут кармілі ня лепш як у Сьвярдлоўску: на дзень давалі 300 гр. хлеба, рана шклянку кіпятку, днём крыху забоўтанае мукаю вады, што называлася супам і вечарам такі-ж суп і вада. Зьняволеныя прадавалі апошнія рэчы, каб магчы купіць у турэмнай краме хоць штоколечы да яды. І яшчэ адною асаблівасьцю азначалася іркуцкая турма: па зьняволеных вошы хадзілі пехатою, не зважаючы на тое, што з імі ўсе штодзенна вялі зацятую вайну.

З Іркутску пераслалі ўладыку Балеслава ў Краснаярск. Прыехаў ён туды 30-І-1931 г. і меў чакаць у ізалятары далейшага транспарту ў Енісейск. Адносіны да зьняволеных у краснаярскім ізалятары былі страшэнна брутальныя. Усіх ганялі на прымусовую працу, не зважаючы ні на слабасьць ні на хваробу. Часам хворых проста скідалі з нараў і білі нагамі. Такія жудасныя сцэны цяжка апісваць, бо славамі не ў магату пераказаць усяе глыбіні цярпеньня, якое ў такіх выпадках перажывае чалавек. Да таго холад у няпаленых камэрах і дрэннае харчаваньне выснажвалі здароўе і нэрвы. Да ўсяго гэтага далучалася яшчэ найбольш брыдотная мацяршчына агэнтаў ГПУ і крамольнікаў, якая ў прысутнасьці духоўных прыймала характар страшнага богалаеньня.

Чакаючы на далейшы транспарт, уладыка Балеслаў час-да-часу заклікаўся на допыты і там аднойчы асочны пахваліўся, што ў Краснаярску яшчэ каталіцкая царква не зачынена і парахам у ёй ёсьць а. Цэрпэнто. Гэта быў сэмінарыйны сябра ўладыкі, дык напісаў да яго картку і па некаторым часе атрымаў ад яго некалькі пачак з ежаю і вопраткаю.

На транспарт у Енісейск чакала так-жа група грузінаў. Яны былі так добра заграпізаваныя, што дабіліся для сябе падводы і цёплую вопратку. Уладыка Балеслаў пазнаёміўся з імі і паводля іхняе рады напісаў асочнаму просьбу, каб быць прыдзеленым да грузінскае групы і на дзіва ГПУ гэтым разам просьбу хутка задаволіла і нават далі на дарогу кажух і валенкі. Падарожжа з Краснаярску ў Енісейск (337 км.) трывала ад 1-III да 7-III. Мяйсцовыя сяляне, хоць і самі бедныя, але ссыльным заўсёды спрыялі і ў меру магчымасьці памагалі.

У Енісейску цэламу траспарту, з якім ехаў уладыка Балеслаў, далі нешта падобнае да пашпартаў і сказалі:

— Вы вольныя, але маеце мэльдавацца ў міліцыі, што пяць дзён.

Прыйшлося шукаць кватэру і магчымасьць пражыцьця. Насельніцтва хоць і адносілася прыхільна да ссыльных, але памешканьня знайсьці было ня лёгка. Уладыка Балеслаў пастукаўшыся надарма ў дзьверы некалькіх хатаў натрапіў нарэшце на добрага чалавека, які параіў зьвярнуцца да аднае пабожнае жанчыны, што займала ў сваім доме некалькі пакояў. Яна яшчэ ніколі нічога ня чула аб каталіках, дык пасьля прывітаньня пыталася зьдзіўленьнем ўладыку Балеслава:

— Хто-ж ты такі будзеш?

— Сыльны каталіцкі япіскап.

— Каталіцкі япіскап?! А ты ў Бога верыш?

— Веру.

— А ў Хрыста Спасіцеля верыш?

— Веру.

— А Багародзіцу пачытаеш?

— І Багародзіцу пачытаю.

— Ну, калі так, дык добра, пойдзем шукаць кватэру.

Гэта была шчырая веруючая душа, якая прыняла з сапраўднаю хрысьціянскаю гасьціннасьцю няведамага ёй чалавека, хоць за гэта магла мець ад уладаў вялікія няпрыемнасьці. Як у той час у Енісейску людзі сьцерагліся ўладаў можа сьведчыць такі факт. У тае самае жанчыны, дзе затрымаўся ўладыка Балеслаў, жыў яшчэ ссыльны украінец, але яны да сябе ніколі не прамовілі слова. Затое духоўныя маглі хутчэй зблізіцца між сабою. У Енісейску ўладыка Балеслаў пазнаёміўся з мяйсцовым праваслаўным сьвятаром, які быў благачынным для Енісейскага вокругу, ягоныя бацькі паходзілі з Беларусі. Матушка благачыннага падаравала ўладыцы кілішак, які мог добра служыць чашаю. Гэта была вялікая прыслуга, бо ўладыка штодзенна служыў у сваім маленькім пакойчыку Службу Божую і туды часам прыходзілі ссыльныя да споведзі і да сьв. Прычасьця, а ў тым часе ссыльных з Беларусі ў Сібіры было поўна.

Вольнае жыцьцё ўладыкі Балеслава ў Енісейску скончылася неспадзевана. Дня 26 траўня, калі ўладыка абедаў у аной знаёмай сям'і, раптам туды зьявіліся агэнты ГПУ і паказалі ўладыцы паперку, што маюць зрабіць вобыск у ягоным памешканьні і самога арыштаваць ды пераслаць да распараджэньня Туруханскага ГПУ. Зноў прыш-

лося вандраваць у турму. Там яго спачатку пасадзілі ў камэру, дзе сядзелі стараверы, а на другі дзень перанесьлі ў камэру з надпісам «Смертнік» і адтуль ня выпускалі нават у клёзэт, але нічога пры гэтым не казалі аб якімсьці прысудзе на сьмерць. Уладыка зажадаў выясьненьня і калі яго не атрымаў, дык аб'явіў галадоўку. Гэта памагло, яму пазволілі выходзіць з камэры, так як і іншым зьняволеным і выясьнілі, што ён ня прысуджаны на сьмерць. Харчаваньне ў турме было вельмі нездавальняючым, але на шчасьце знаёмыя з Енісейску перадавалі падаянкі. У «сьмяротнай» камэры прышлося прасядзець да 16 чэрвеня. Гэтага дня ад'язджаў карабель у Туруханск і Уладыка Балеслаў у таварыстве агэнта ГПУ паехаў да канчатковага мейсца свае ссылкі. Падарожжа трывала ўсяго 6 дзён і 22-VI карабель спыніўся ў Туруханску. Там зьняволеным казалі пачакаць «на волі» некалькі дзён, пакуль будзе йсьці новы транспарт у Старатуруханск. Сыльных выпускалі на правізарычную волю, бо уцякаць усёроўна ня было магчымасьці. Там уладыка Балеслаў стрэнуў некаторых старых знаёмых з Сьвярдлоўска з адмарожанымі рукамі — яны тут у вялікіх муках чакалі сьмерці, як збаўленьня. Хадзячыя напоўжывыя трупы — гэта страшэннае відовішча, але бальшавікі прывучылі людзей зжыцца з гэткімі страхоцьцямі.

Каб пражыць пару дзён у Туруханску, прышлося шукаць памешканьня. Уладыка Балеслаў распачаў пошукі ад таго, што зайшоў да мяйсцовага праваслаўнага сьвятара а. Івана. З гутаркі выявілася, што ён беларус. Прыняў уладыку гасьцінна і радасна. Парахвіяльны дом быў падобны да хаткі на курыных ножках, у якой вольнага мейсца і было ня больш, як легчы аднаму чалавеку; без ніякіх хістаньняў а. Іван прызначыў гэтае мейсца свайму госьцю. Словам пахрысьціянску падзяліўся апошнім. У той цясноце было штосьці вельмі ўтульнае, бо адчувалася, што там між людзьмі быў Хрыстос.

Праз тыдзень зноў у таварыстве агэнтаў ГПУ уладыка Балеслаў ехаў на барцы ў Старатуруханск — канчатковае мейсца ссылкі. Перш там была сталіца Туруханскага краю, але потым яе перанеслі ў новы горад Новатуруханск, а ў Старатуруханску асталося ўсяго 13 мяйсцовых сем'яў.

Каб уявіць сабе ўмовы жыцьця ў Туруханскім краю, трэба ведаць, што там пачынаецца абшар вечнае мярзлоты; гэта, значыць, што нават летам там зямля растае толькі на якога паўмэтра, а глыбей ляжыць вечны мярзьляк. Таму і лясоў там няма і агулам расьліннасьць вельмі бедная; растуць толькі дробныя хмызьнякі. Жывёлінны сьвет так-жа небагаты. Затое летам зьяўляецца аграматная колькасьць камароў. Яны проста хмарамі накідаюцца на людзей і на жывёлу — колькі іх ня бі, дык усьцяж налятаюць новыя масы. Жартам кажуць, што яны пасавецку галодныя і нахабныя. Каб мець ад іх хоць крыху супакою, трэба ў хатах трымаць дзень і ноч дымакуры, але тады дым выядае вочы. Старатуруханск стаіць над ракою Туруханкай недалёка ад мейсца яе ўпаду ў Енісей і ўсяго 37 км. ад Новатуруханску. Насельніцтва займаецца пераважна рыбалоўствам.

Перад выездам у Старатуруханск уладыка Балеслаў даведаўся ад а. Івана, што там будзе магчыма знайсьці памешканьне ў ягонае знаёмае Марыі Грыгорыеўны. Невялікая калёна ссыльных прыехала ў Старатуруханск ноччу 1-VII-31. Таму што гэта было лета, дык ноч была зусім ясная і на шчасьце якісьці чалавек яшчэ ішоў па вуліцы і паказаў уладыцы хату Марыі Грыгорыеўны. Яна даведаўшыся, што мае дачыненьні з чалавекам, якога рэкамэндуе а. Іван, прыняла уладыку вельмі радасна і адразу кінулася рыхтаваць чай. Трэба было нямала яе пераконваць, каб адгаварыць ад гэткіх захадаў сярод ночы. Але не зважаючы на позны час госьцю не выпадала адмовіцца ад пачастунку тасьціннае асобы — на стале зьявіўся баханак хлеба і гладыш малака.

У хаце Марыі Грыгорыеўны было ўжо разам з сямейнікамі 14 чалавек, але знайшлося мейсца і для 15-га, а назаўтра невялікай занавескай быў зроблены асобны пакойчык для уладыкі; знайшлася і невялікая сетка на ложак ад камароў.

У Старатуруханску была маса ссыльных з розных куткоў Савецкага Саюзу і розных нацыянальнасьцяў. Між іншымі уладыка Балеслаў стрэнуў там свайго суродзіча, латвійскага пагранічніка, які калісь вызначаўся тым, што спрытна лавіў на граніцы савецкіх шпіёнаў і за гэта аднаго дня яго самога схапілі савецкія пагранічнікі і перакінулі ў глыб Сібіру. Між ссыльных былі людзі самых розных веравызнаньняў, былі нават такія пагане, якія багамі лічылі сонца і сьв. Мікалая. Сюды так-жа трапіла некалькі тых няшчасных, якія ў Сьвярдлоўску паадмарожвалі рукі, тут яны дажывалі свае апошнія дні.

Ссыльныя былі забавязаныя што пяць дзён зьяўляцца ў сельсавеце, а па-за тым рахаваліся вольныя і мусілі самі сабе знайсьці памешканьне і пражыцьцё, а для пражыцьця ня было іншага выхаду, як ісьці ў мяйсцовы рыбны калгас, які там заснаваўся ў 1931 г. Аднак уладыка Балеслаў ня стаўся калгасьнікам рыбаловам, ён працаваў са сваім суродзічам як адзіналічнік, яны мелі тое шчасьце, што знайшлі лодку, прынесеную аднекуль паводкаю і праз гэта іхняя праца была больш спорнаю ў параўнаньні да іншых. Рыбы ў рацэ Туруханцы было многа і рыба была добрая, але ў часе працы страшэнна дакучалі камары; трэба было рукі і аблічча або мазаць дзёгцем, або паліць каля сябе якую куравую дрэнь.

Невялічкі пакойчык уладыкі Балеслава быў адначасна і капліцаю. Там штодзенна уладыка пра-

віў Службу Божую. Толькі ад сьвята Божага Цела да 11 верасьня 1932 г. было ня стала гостыяў і віна, якія звычайна атрымоўваў у пасылках. Пасьля агульнае калектывізацыі пасылкі станавіліся штораз больш рэдкімі і меншымі. Да некаторых знаёмых сам уладыка пісаў, каб больш пасылак ня прысылалі.

Часам да уладыкі мяйсцовае насельніцтва прыносіла хрысьціць дзяцей, але таму што яны афіцыяльна лічылі сябе праваслаўнымі, дык спачатку ён прабаваў адмаўляцца:

— Я-ж па вашаму не ахрышчу.

— Усёроўна, войчанька, лепш ахрысьціце, як нашая цётка Валентына. (Гэта была бабулька, якая хрысьціла дзяцей за нястачаю сьвятара). Пасьля гэтага адмаўляцца было ніяк і уладыка хрысьціў усіх, каго прыносілі.

За кожным ссыльным агэнты ГПУ сачылі вельмі уважна. Яны ведалі з кім хто сябруе, з кім гутарыць і нават што есьць.

Дня 15 лістапада 1932 г. неспадзевана зьявіўся ў Старатуруханску начальнік Туруханскага ГПУ Гэндэль і зробіў дакладны вобыск у памешканьні уладыкі Балеслава, нічога пры гэтым не знайходзячы. Але Гэндэль быў моцна зьдзіўлены, калі між старымі савецкімі газэтамі, якія прэнумэраваў уладыка знайшоў некалькі нумароў «Бязбожніка».

— Відаць вы сталіся паступовым сьвятаром, — казаў ён.

А той «паступовы сьвятар» з гэтае бязбожнае газэты меў адзіную магчымасьць вычытаць некаторыя рэлігійныя навіны, аб якіх іншая савецкая прэса маўчала зусім. Ніякіх іншых крыніцаў інфармацыі ня было.

**а. Л. Гарошка.**

(Заканчэньне будзе).

# Аб уплыве хрысьціянства на беларускія абычаёвыя і пісаныя правы

**(Працяг).**

Ці прыход хрысьціянства запачаткаваў новую пару у жыцьці нашых продкаў? а тым самым, ці мела яно уплыў на разьвіцьцё звычаяў і правоў на Беларусі? — Гэта асноўнае пытаньне, якое ставіцца ў гэтым дакладзе і адказ на яго будзе бязумоўна пацьвярджаючым. Але далей насоўваюцца два наступныя пытаньні: 1) Якім чынам, якім шляхам і ў якой форме адбываўся уплыў хырсьціянства і 2) ў якой ступені хрысьціянства як такое спрычынілася да эвалюцыі беларускага законадаўства?

Калі нашыя продкі прынялі хрысьціянства, яны ня сталіся так адразу сапраўднымі хрысьціянамі. Старая паганская рэлігія яшчэ доўга трымалася ня толькі ў глухіх вёсках, але і ў гарадох з такою упорыстасьцю, што была вытварылася свайго роду падвойная рэлігія, з якою Царкве прышлося вясьці нялёгкае змаганьне (46).

Наяўнасьць цэлае масы чараўнікоў і паганскага клеру — спадчына папярэдняе эпохі — станавіла сабою важны сацыяльны дзейнік у тагачасным грамадзтве. Гэта яны ў першую чаргу вялі зацятую вайну супраць хрысьціянства. Царква, бачычу іхны уплыў на людзей, была змушаная накіраваць супраць іх усе свае сілы, спатыкаючы — асабліва ў першыя часы — паважны супраціў гэтага ворага (47).

Хрост князёў спрычыніўся да зьмены палітычных умоваў старое і новае рэлігіі.Дзяржава ступіла на шлях поўнага разрыву з паганшчынай і да аб'яднаньня з хрысьціянствам, але гэта усё сталася толькі з некаторым спазьненьнем. Паганізм хаця і пераможаны, ня быў аднак зьнішчаны; бараніўся ён яшчэ доўгі час пры дапамозе нават законаў і звычаяў самога грамадзтва, у якім быў глыбока закарэнены (48).

Наагул шмат чаго, што было ў паганскую эпоху, перайшло ў хрысьціянскую з тымі толькі зьменамі, што пад уплывам Царквы некаторыя звычаі і практыкі, якія зусім не гадзіліся з духам хрысьціянства, былі вызлімінаваныя, а іншыя прыстасаваныя да новага духу. Тут варта заўважыць, што Усходняя Царква адносна да паганскіх звычаяў і абрадаў была больш талерантнай чым Заходняя. Да таго адвечныя звычаі былі так глыбока закарэнены ў жыцьці нашых продкаў, што нават у 14 стагодзьдзі знэйходзіліся простыя людзі, якія уважалі царкоўныя цэрэмоніі за нешта, што добрае толькі для князёў (49). Некаторыя звычаі і практыкі паганскага парыяду сталіся складовай часткай рэлігійных хатных звычаяў, а некаторыя нават і царкоўных і дахаваліся аж да нашых дзён.

На пачатку хрысьціянскае пары грамадзтва адзін раз было больш хрысьціянскім чым ягоныя законы, а іншым разам гэтыя законы былі больш хрысьціянскімі, чым самое грамадзтва. Быў сталы брак гармоніі, які трэба тлумачыць змаганьнем двух прынцыпаў: элемэнту паганскага і элемэнту

46. Niederle Lubor, Manuel de l'antiquité slave. Tome II (Paris 1926), st. 128.
47. Niederle, op. cit. st. 162.
48. M. M. Troplong, De la influencia del Cristianismo en el Derecho Civil de los Romanos (Madrid 1851), st. 7
49. Niederle, op. cit. st. 16:

хрысьціянскага (50). Гэтак сама трэба заўважыць, што на пачатку Царква і дзяржава знайходзіліся ў замоцна непасрэдным кантакце. Гэта было якраз вынікам таго, што Царква ня была поўнасьцю незалежнай у сваіх дэтэрмінацыях і акрэсьленьнях; пратэкцыя сьвецкае ўлады адбівалася нярэдка адмоўна на ўладзе пратэгаванай і вялікія думкі гэтае апошняе зьменшваліся і звужаліся, як толькі яна лучылася з палітыкай гэтага сьвету (51).

Ужо гэтых некалькі заўвагаў агульнага характару даволі, каб сьцьвердзіць наяўнасьць уплыву хрысьціянства на фармаваньне беларускіх абычаёвых, а тым самым і пісаных правоў. Ідучы далей, трэба прыглянуцца, якім чынам, якім шляхам і ў якой форме адбываўся той уплыў? Ёсьць звычайнай рэччу, калі князь прымаў новую рэлігію, дык адначасна браў на сябе абавязкі абараняць яе. Гэты абавязак быў неразлучны з княжёўскім урадам і таму князі заўсёды ўважалі сябе абаронцамі веры. Дык будзе зусім зразумела, што нашыя князі, прыняўшы хрысьціянскую веру, ставілі яе ўва ўпрывілеяванае становішча, акружаючы яе сваею непасрэднай апекай і надаючы прывілеі розным царкоўным інстытуцыям і клеру. З другога-ж боку падобны стан рэчаў аднчасна мусіў азначаць абвешчаньне дзяржавай адкрытага змаганьня супраць паганства. Як у адным, так і ў другім выпадку ўсе князёўскія акты заключаліся ў першую чаргу ўва ўстанаўленьні адпаведных законаў і нормаў дзеля рэгуляваньня суадносінаў людзей у княстве згодна з духам новае веры. Гэткія законы, якія маглі маніфэставацца ў вуснай ці пісанай форме, і прычнаю зьяўленьня якіх было якраз прыняцьце хрысьціянства, далі пачатак хрысьціянскім правом і законам, уводзячы хрысьціянскі элемэнт у беларускае заканадаўства. Паколькі асабліва ў пачатках хрысьціянскае эпохі, амаль усе нормы і законы паўставалі пад уплывам Царквы, ня былі творам якогасьці даўжэйшага эвалюцыйнага працэсу, але іхняй крыніцай была непасрэдна князёўская ці царкоўная ўлада, дык гэты спосаб і гэты шлях уплыву можна назваць простым, непасрэдным і рэвалюцыйным.

Успомнены шлях ня быў адзіным. Ён быў уласьцівым, калі ня выключна дык у пераважаючай ступені, толькі ў першыя вякі пасьля прыняцьця хрысьціянства. З часам ён уступіў мейсца іншай форме праніканьня хрысьціянскага элемэнту і ягонага ўзьдзейваньня на беларускія інстытуцыі права.

Хрысьціянская Царква вяла доўгае і напружанае змаганьне за хрысьціянізацыю старых практыкаў, звычаяў і сацыяльных нормаў сужыцьця грамадзтва. Працэс гэтае хрысьціянізацыі — бяручы пад увагу ўласьцівасьці псыхікі беларускага народу — мусіў быць павольным і патрабаваў шмат часу, каб выэлімінаваць калішнія паганскія звычаі і практыкі ды замяніць іх хрысьціянскімі, з аднаго боку, як і змадыфікаваць ды дастасаваць да вымогаў Царквы і хрысьціянскае навукі іншыя з іх. Ведаючы, што звычаі зьяўляюцца адною з крыніцаў права, можна лёгка бачыць той іншы шлях і іншы спосаб, якім хрысьціянства праяўляла свой уплыў на нармаваньне і рэгуляваньне людзкіх суадносінаў у беларускім народзе. Гэты шлях моцна розьніўся ад папярэдняга. Вымагаў ён даўжэйшага эвалюцыйнага працэсу, і таму будзе найлепш яго назваць эвалюцыйным шляхам і пасрэдным уплывам хрысьціянства на фармаваньня беларускага правадаўства.

Прыходзячы яшчэ бліжэй да самае тэмы, трэба зазначыць, што ў тым часе, калі Царква пачала пашыраць сваю навуку на беларускіх землях; яна ўжо мела дакладна апрцаваныя вялікія зборнікі царкоўнага права т. зв. номоканоны, якія ў царкоўна-славянскіх перакладах называліся Кормчымі кнігамі. Няма сумніву, што гэтыя зборнікі, якія прыйшлі на Беларусь з Баўгарыі, сваім зьместам і сваімі прынцыпамі мелі ўплыў на мяйсцовае заканадаўства.

З арыгінальных памятнікаў заканадаўства першых вякоў хрысьціянства і агулам сярэднявечча на Беларусі да нашых дзён захавалася толькі некалькі. Першым з іх агульна лічыцца Руская Праўда (52) асабліва ў пазьнейшай пашыранай рэдакцыі з канца X-га і пачатку XI ст. Гэта ёсьць кодэкс юрыдычных нормаў крымінальнага права, дзе ўжо заўважваюцца сьляды ўплыву хрысьціянскіх прынцыпаў на ягонае фармаваньне. Напр. помста тут ужо адменьваецца, уносяцца артыкулы рэгулюючыя нормы цывільнага права, якіх ня мела Руская Праўда кароткае рэдакцыі. Таксама рэгулююцца ў ёй суадносіны куплі-прадажы, пазыкаў, перахаваньня, спадчыны і апекі.

Цікавымі праўнымі дакумантамі былі т. зв. Устаўныя Граматы, якія рабілі князі падчас заснаваньня біскупстваў. Нажаль найстарэйшыя такія граматы беларускіх князёў з Полакца і Турава загінулі, захавалася толькі грамата князя Расьціслава Смаленскага з 1150 г. У ёй рэгулююцца ня толькі чыста рэлігійныя справы, але так-жа і некаторыя з тых, дзе сходзілася рэлігійная і сьвецкая ўлада (53).

Іншым цікавым памятнікам нашага сярэднявечнага заканадаўства зьўляецца Смаленскі Да-

50. Troplong, op. cit. st. 5.
51. Troplong, op. cit. st. 76.

52. Ёсьць многія гісторыкі, якія ўважаюць, што Руская Праўда адносіцца ня толькі да Кіеўскай Русі, але гэтак сама і да Смаленску і да Ноўгараду. (Гл. В. Г. Гейман «Право и суд» у «История культури древней Руси» (Москва-Ленинград 1951). Т. II, стар. 41).

53. Яе поўны тэкст з крытычнымі заўвагамі паданы ў «Памятники русского права» (Москва 1953). Вып. второй, стар. 37-54.

гавор з Рыгай і Готляндам, заключаны князем Мсьціславам Давідавічам у 1229 г. Хаця ён прысьвечаны галоўным чынам рэгуляваньню гандлёвых дачыненьняў паміж смаленскімі і нямецкімі купцамі — прадстаўляе сабою тып міжнароднага дагавору — мае ў сабе вельмі цікавыя артыкулы аб праступствах супраць маралі, адносна чужалоства і гвалту. Таксама поўна прадстаўлены ў ім артыкулы цывільнага права і судаўніцтва.

Маецца яшчэ адзін пазьнейшы дагавор Смаленску з немцамі, які адносіцца да 1240-50 г. Ягоны зьмест падобны да дагавору з 1229 г., але мае артыкулы аб спадковым праве, чаго ня было ў папярэднім дагаворы (54).

Яшчэ перш, бо ў 1210 г. была зроблена гандлёвая ўмова Полацку з Рыгай і потым падобныя ўмовы некалькі разоў аднаўляліся і дапаўняліся. Аб некаторых з іх захаваліся толькі ўспаміны (55).

Адносна судаўніцтва, дык з Смаленскага Дагавору (1229 г.) даведваемся аб новым спосабе караньня, аб заключэньні. Руская Праўда ўспамінае толькі аб такіх пакараньнях, як: штраф, патоп і разграбленьне. У Дагаворы-ж успамінаюцца яшчэ «пограб» ці "поруб» (вязьніца-зямлянка з бярвеньнем на нагах пакаранага) і «жэлеза» (закуцьці). Яны мелі практыкавацца ў нас пачынаючы ад XIII-га стаг., хоць у летапісе з пачатку XI ст. устамінаецца ўжо аб заключэньні ў «паруб» (56).

Да іншых праўных памятнікаў тэнае пары адносяцца яшчэ князёўскія даравальныя граматы розным інстытуцыям, пераважна царкоўным і вышэйшаму клеру. Характэрыстыка феодальнае эпохі ёсьць якраз наяўнасьць вялікіх магнацтваў, якія мелі свой пачатак у князёўскіх надзелах. Іх можна здэфініяваць, як інстытуцыі, пры помачы якіх сяляне групаваліся каля магнатаў царкоўных (біскупаў, манастыроў), ці сьвецкіх уласьнікаў вялікіх зямельных абшараў з тым, каб іх абаранялі ад воінкавых нападаў і каб атрымаць ад іх зямлю для апрацоўкі. Такія князёўскія надзелы былі пераважна іммунітэтныя і таму тэрытарыяльнае магнацтва прадстаўляла сабою жыцьцёвую адзінку, у нутры якое здавальняліся ўсе ейныя патрэбы: палітычныя, эканамічныя, сацыяльныя, юрыдычныя і рэлігійныя. Вось-жа свайго роду поўная аўтаркія.

**Я. Сурвіла.**

54. Гейман, назв. твор, стар. 48.
55. Іх пералічае В. Ластоўскі, Гісторыя крыўскае (беларускае) кнігі, Коўна 1926.
56. Гейман, назв. твор, стар. 59.

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## АДКРЫЦЬЦЕ МАРЫЙСКАГА ГОДУ

Так як было абвешчана энцыклікаю, аб якой успаміналася ў папярэднім нумары нашага часапісу, сёлета 8-га сьнежня Сьвяцейшы Айцец Пій XII урачыста адчыніў у Рыме Марыйскі Год. Апісаньне гэтае ўрачыстасьці глядзі ў рэпартажы А. Надсона на стар. 3.

## АСУДЖАНЬНЕ ЛЮКСУСУ.

Сьвяцейшы Айцец прыняў 27 лістапада на асобнай аўдыенцыі ў Кастэль Гандольфо групу італьянскіх залатароў і, прамаўляючы да іх, пахваліў іхняе мастацтва, якое адказвае глыбокаму жаданьню чалавека даць артыстычную форму каштоўным мэталям, або каб упрыгожыць нейкую ідэю ці ўспамін. Але пры гэтай нагодзе Сьвяцейшы Айцец асудзіў «той люксус, які мае на мэце задаволіць толькі людзкую пустую фанабэрыю і зьневажае цярпеньне бедных і выклікае ў іх незадаволеньне».

## 100-ЫЯ ЎГОДКІ АПОСТАЛЬСКАЕ ПРАЦЫ САЛЕЗІЯНАЎ.

У італьянскім горадзе Туріне, сто гадоў таму сьв. Іван Боско (1815-1888), прыглядаючыся, як у гэты прамысловы горад наплывалі грамады моладзі і юнакоў ды аддавалі на бязьлітасную эксплаатацыю, амаль за бясцэн свае маладыя сілы, пастанавіў дапамагчы сваім маладым сурodзічам у наладжаньні жыцьця. Ён пачаў арганізаваць школы, у якіх моладзь магла здабыць нейкі фах і тым самым, стаўшыся кваліфікаванымі работнікамі, атрымоўвала добрую заработную плату. Ад таго часу духовыя сыны сьв. Боско, айцы і браты салезіяне выпусьцілі мільёны кваліфікаваных работнікаў і прадаўжаюць гэтую акцыю цяпер. Сёньня ўва ўсім сьвеце яны маюць 600 прафэсыянальных школаў. Азначаючы 100-ыя ўгодкі гэтага шчасьлівага пачыну ў паасобных краінах сьвету адбываліся адпаведныя ўрачыстасьці і выстаўкі.

## ТЫДЗЕНЬ ФРАНЦУСКІХ КАТАЛІЦКІХ ІНТЭЛЕКТУАЛІСТАЎ.

Сёлета між 8 і 14 верасьня аб'еднаньне Французскіх Каталіцкіх Інтэлектуалістаў ладзіла ўжо шосты з чаргі свой Тыдзень. Гэтым разам праводная тэма Тыдня была: «Мадэрны сьвет і сьведамасьць Бога». Агульнае зацікаўленьне Тыднем было вельмі вялікае. Выдатныя навукоўцы, іхныя актуальна ўнятыя рэфэраты і самыя парушаныя тэмы зьбіралі праз увесь тыдзень толькі слухачоў, што адна з большых парыскіх саляў у пяляцы Мутюалітэ была заўсёды поўная.

## КАТАЛІЦКАЯ ДЫЯЦЭЗІЯ Ў ШТОКГОЛЬМЕ

У Швэцыі на агульны лік 6.800.000 насельніцтва ёсьць толькі 21.000 каталікоў, і гэта ў большасьці (13.000) чужынцы. Да гэтага часу яны кіраваліся Апостальскім Вікарыем у Штокгольме. Але сёлета, пасьля таго, як Апостальскі Пасад стварыў каталіцкія дыяцэзіі ў Даніі і Нарвэгіі створана так-жа і ў Штокгольме (9 лістапада) каталіцкую дыяцэзію для ўсяе Швэцыі. Першым штокгольмскім біскупам назначаны дагэтулешні Апостальскі Візітатар Я. Э. Іван-Эрык Мюльлер.

Да 16 ст. Швэцыя была суцэльна каталіцкім краем, але пасьля пратэстанцкае рэформы там катакіком было забаронена практыкаваць сваю рэлігію пад пагрозаю сьмерці. Толькі ў 1837 г. было дазволена каталіком вызнаваць сваю веру, але толькі чужынцом. Швэдам дазволена практыкаваць каталіцызм толькі ў 1866 г. і толькі 22.IX. 1951 г. скасавана рэлігійную дыскрымінацыю.

## СЬВЕТАЧ У ПАХОДЗЕ ПРАЗ ЭЎРОПУ

З нагоды Марыйскага Году каталіцкая моладзь Заходняе Эўропы арганізуе сьветачавую эстафэту, якая пяройдзе праз вольныя краіны Зах. Эўропы. Выйдзе яна з Люрду, дзе Я. Э. Тэас біск. Табр і Люрду 1-га траўня 1954 г. запаліць сьветач ад вечнае лямпады ў Люрдзкай базыліцы і перадасьць яго ў рукі моладзі, якая панясе яго праз краіну, што некалькі кілямэтраў перадаючы з рук у рукі. Гэткім чынам той сьветач пяройдзе праз Францыю, Гішпанію, Партугалію, Італію, Аўстрыю, Швайцарыю, Люксэмбург, Бэльгію, Данію, Ірляндыю і Англію.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Загульваньне з патрыятызмам

Весткі адносна рэлігійнага жыцьця на Беларусі. якія апошнім часам зьвяліся на старонках «Журн. Маск. Патр.» сьведчаць, што ў гэтай галіне жыцьця на абшары БССР адбываюцца нейкія новыя зьмены, сапраўдны сэнс якіх магчыма будзе ўбачыць хіба ў недалёкай будучыні. «Ж.М.П.» Нр. 8 падаў вялікі рэпартаж аб хіратоніі нованазначанага Бабруйскага яп. Мітрафана (Гутоўскага). Адбылася яна 5-га чэрвеня ў Менску і дзеля гэтага ў Менск прылятаў на самалёце міт. Мікалай (Круцікі), калішні экзарх Маскоўскага Патрыярха для Зах. Беларусі і Зах. Украіны. Мяйсцовым «праваслаўным» і ўрадавым прадстаўніком, якія яго сустракалі на лётнішчы, мітрапаліт між іншым заявіў, што ён ёсьць сынам Беларускае зямлі (сам ён радзіўся ў Коўне, але бацькі былі беларусы) і ён хіратанізаваў новага япіскапа ў саслужэньні Менскага архіяп. Пітірыма і Смаленскага яп. Сяргея. Пасьля хіратоніі на банкеце ў прысутнасьці Г. І. Семёнава, упаўнаважанага па Справах Расейскае Праваслаўнае Царквы пры Радзе Міністраў СССР па БССР, гаварыліся шматлікія прамовы, у якіх успаміналася нават «Беларуская Царква», «большая слава беларускага народу», «Савецкая дзяржава і Беларуская бацькаўшчына» —, што яны робяць усё для "нашае дарагое Бацькаўшчыны, на славу роднае Беларусі»... Словам беларускасьць падчырквалася, як ніколі дагэтуль у падобных абставінах. Праўда ўсё гэта канчалася заўвагамі, што без Рассеі ні кроку і толькі ў яе абыймах беларусы маюць такое «шчасьце». Дзіўнае ўсё гэтае загульваньне з беларускім патрыятызмам, калі нават новахіратанізаваны «яіпскап» ня ёсьць беларусам, але з паходжаньня украінец (родам з Валыні), аднак, відаць, зрусыфікаваны. Трэба думаць, што не бяз дай прычыны савецкія дзеячы пачылі біць па струнах беларускага патрыятызму ў рэлігійным жыцьці.

### Далейшае вылюдненьне Беларусі.

Звычайна штогод менская камуністычная газэта «Звязда» на пачатку школьнага году падавала колькасьць вучняў у школах БССР, але летась яна чамусьці аб гэтым прамаўчала. У Нр. 52 нашага часапісу была зьвернена ўвага, што такое маўчаньне ёсьць грозным знакам і сёлета пры нагодзе зацьверджаньня бюджэтаў СССР і БССР выявілася, што дагадка нашага часапісу была больш чым абаснаванаю. «Звязда» і "Праўда", пішучы спраздачы аб прамовах дэлегатаў, падалі да ведама, што ў 1953 г. у БССР лічылася ўсяго 1.375.000 вучняў. Каб усьведаміць, аб чым сьведчыць гэтая цыфра, трэба прыпомніць, што ў 1952 г. было 1.426.000 вучняў ў 1951—1.466.000. а ў 1949 — 1.490.800. Калі-б гэтае штогодняе зьменшаньне школьнікаў было выклікана толькі калішнімі ваеннымі падзеямі, дык-бы напэўна савецкія газэты аб ім зрабілі-б/хоць зацемку, але відаць, што найбольшаю прычынаю гэтага жахлівага зьменшаньня ліку школьных дзяцей ёсьць масавае вылюдненьне Беларусі.

### Колькі ёсьць ВНУ ў БССР?

Якое безгалоўе пануе ў школьніцтве на абшары Савецкае Беларусі можна бачыць з таго, што нават самыя сучасныя тамтэйшыя верхаводы ня ведаюць колькі ёсьць у БССР Вышэйных Навучальных Установаў. Сакратар горадзенскага абкому казаў ў Маскве 8-VIII, што іх ёсьць 29; міністар фінансаў Коханаў казаў у Менску 18-VIII, што іх ёсьць 30, а міністар культуры Рыгор Кісялёў таго-ж дня і ў той-жа салі паседжаньдэпутатаў казаў, што іх ёсьць аж 32. Гэтак сама і лік бібліятэкаў, кіноўстановак і інш. кожны падаваў на свой лад Ня дзіва пасьля гэтага, што ў

такіх міністраў якія ня ведаюць, колькі маюць унівэрсытэцкіх установаў у сваёй дзяржаве іхныя падуладныя яшчэ «мудрэйшыя». «Звязда» Нр. 160 з 9-VII наракае, што ёсьць ня толькі шмат настаўнікаў, але нават інспэктароў невукаў, якія «ня маюць належнага пэдагагічнага вопыту і нават адпаведнай адукацыі».

**Назад у вёску.**

Да апошняга часу па ўсім СССР і асабліва ў БССР у прымусовым парадку, паводля вызначанага кантынгэнту, вясковае жыхарства высылалася ў гарады. Але вось сёлета 7 верасьня зьявілася пастанова ЦК Камун. партыі «Аб мерах далейшага разьвіцьця сельскай гаспадаркі СССР» і пачаўся адваротны працэс. З нумару ў нумар менская «Звязда» пачала публікаваць «патрыятычныя» лісты калішніх тракатарыстаў, аграномаў і пад. з просьбамі паслаць іх назад на працу ў вёску. На доказ, што гэта робіцца з «вялікім энтузіязмам і радасьцю» зьмяшчаюцца шматлікія фатаграфіі тых «патрыётаў» з усьмехненымі абліччамі.

## АЎСТРАЛІЯ.

**Мажнародная выстаўка ў Пэрт.**

«Міжнародная Ліга Добрае Волі ў Зах. Аўстраліі» ладзіла сёлета між 26-30 кастрычніка ў Пэрт вельмі цікавую міжнародную выстаўку мастацтва, у якой удзельнічала 16 народаў і сярод іх беларусы. Беларускі адзьдзел знайходзіўся між адзьдзеламі Кітаю і Югаславіі і стараньнем мяйсцовага Адзьдзелу Задзіночаньня Беларускіх Вэтэранаў быў наладжаны вельмі ўдала. Асабліва вабіла да сябе вока глядачоў і аб'ектывы фотоапаратаў беларускія народныя тканіні і ўзоры вышывак. Посьпех выстаўкі быў вялікі і шматлікія глядачы з добрымі ўспамінамі аб ёй шырока разьнясуць добрае імя Беларусі.

## БЭЛЬГІЯ.

**У студэнцкай грамадзе.**

Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэне адбыло дня 2-га лістапада свой гадавы сход, на якім пасьля справаздачы ўступаючай управы і дыскусіі быў запрошаны на ганаровага старшыню БСЗ а. Робэрт ван Каўвэлярт а звычайным старшынёю выбраны Я. Запруднік, які сабе дабраў управу ў складзе: заступнік старшыні — Т. Цімафейчык, сакратар — П. Урбан, скарбнік — Л. Віньніцкі, адміністратар — М. Ягаўдзік. На чарговым сходзе 10-XI гэты склад управы адобрана і намечана плян працы на бягучы акадэмічны год.

## З. Ш. А.

**На арганізацыйнай і міжнарожнай ніве.**

● З пачаткам 1954 г. Літаратурная Сэкцыя пры Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва пачне выдаваць непэрыядычны **літаратурны часапіс.** Да гэтага часу на эміграцыі выходзіла аж 5 назоваў беларускіх літаратурных часапісаў, але вось ужо мінае тры гады, як не паказваецца больш і той з іх, што быў найбольш жывучым.

● Прадстаўнікі **Беларускага Студэнцкага Таварыства і Саюзу Украінскіх Судэнцкіх Таварыстваў** мелі 17 кастрычніка супольную канфэрэнцыю ў Нью Ёрку ў справе супольнага і згоднага інфармаваньня вольнага сьвету аб вызвольных змаганьнях Беларусі і Украіны і аб супрацоўніцтве ў змаганьні супраць маскоўскае дывэрсыйнае акцыі. Атмасфэра ўзаемнага зразуменьня, якая панавала на канфэрэнцыі, дае надзею, што яе пастановы не астануцца на паперы.

● Сябры **Беларускага Студэнцкага Таварыства** ўдзельнічалі сёлета 11-га сьнежня на вечары ладжаным Міжнацыянальным Клюбам жаночага каледжу пры Унівэрсытэце ў Нью Брунсвіку. Пункты праграмы, выкананыя беларускімі студэнтамі, зрабілі глыбокае ўражэньне на ўсіх прысутных.

● На **Конфэрэнцыі Свабоды Міру,** якую з ініцыятывы некалькі амэрыканскіх палітычных дзеячоў. ладзілі сёлета 4 і 5 сьнежня ў Вашынгтоне палітычныя, грамадзкія, прафэсыйныя і рэлігійныя арганізацыі З. Ш. А. удзельнічалі прадстаўнікі 50 арганізацыяў. У ёй актыўны ўдзел прымалі прадстаўнікі Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня.

● **Угодкі Слуцкага Чыну** беларусы з Нью Ёрку і ваколіц азначалі 6 сьнежня. Таго дня раніцаю яп. БАПЦ Васіль адслужыў у царкве сьв. Тройцы паніхіду за ўсіх палеглых змагароў за волю Беларусі, а папалудні таго дня адбылася ў аднэй з саляў у Корнэгі Гол урачыстая акадэмія. Адчыніў яе старшыня Нью Ёрскага Адзьдзелу Згуртаваньня Беларускіх Вэтэранаў Б. Данілюк і пасьля прывітальных прамоваў і адчытаньня тэлеграмаў быў прачытаны прынагадны рэфэрат. Закончылася акадэмія багатай і добра выкананай мастацкай часткай.

## ІТАЛІЯ.

**Між багасловаў.**

Сёлетні акадэмічны год група беларускіх багасловаў у Рыме распачала ў ліку чатырох чалавек. Трох з іх студыюе ў Грэгарыянскім унівэрсытэце і адзін працуе над дакторскай тэзай ва Ўсходнім Інстытуце. Варта заўважыць, што Грэгорыянскі унівэрсытэт зьўляецца найбольшым каталіцкім унівэрсытэтам у сьвеце і якраз сёлета ён урачыста азначаў 400-годзьдзе свайго існаваньня.

## НЯМЕЧЧЫНА.

**З жыцьця студэнтаў.**

Пасьля таго, як з хваляю эміграцыі з Нямеччыны былі паразьязджаліся так-жа і беларускія

студэнты ўсе беларускія студэнцкія арганізацыі былі або афіцыяльна разьвязаны, або практычна самі перасталі існаваць, аднак беларускія студэнты не пакінулі зусім нямецкіх унівэрсытэтаў і сёлета ў Бонн знайшоўся гурток беларускае студыюючае моладзі і, навязваючы да традыцыі мінулых гадоў, з днём 1-га жніўня яны аднавілі Згуртаваньне Беларускіх Студэнтаў у Нямеччыне.

**ФРАНЦЫЯ.**

**У міжнароднай работніцкай арганізацыі.**

У памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу 5 і 6 сьнежня адбылася другая сэсія Міжнароднага Саюзу Хрысьціянскіх Работнікаў Уцекачоў і Эмігрантаў (S. F. T. C.) у якую ўвайходзяць: баўгары, беларусы, латышы, летувісы, мадзяры, палякі румыны, славакі, сэрбы, украінцы, харваты, чэхі і эстонцы. Галоўным пунктам праграмы была падрыхтоўка да чарговага кангрэсу. Беларуская дэлегацыя ў складзе трох прадстаўнікоў М. Наумовіча, В. Міцкевіча і М Лысухі прыймала актыўны ўдзел у нарадах. Уканцы сэсіі дапоўнена склад управы Саюзу і ад беларусаў увайшоў у ўправу В. Міцкевіч на становішча віцэстаршыні.

**У чэсьць тых што адыйшлі.**

Беларусы з Парыжа і ваколіц грамадна зьявіліся дня 15 лістапада ў беларускую капліцу пры царкве Сан Сюльпіс, каб памаліцца за тых, што злажылі сваё жыцьцё ў Слуцкім паўстаньні і за першага гэнэральнага сакратара АБРФ інж. Л. Рыдлеўскага — так-жа случчака. Пасьля Службы Божае была яшчэ адпраўлена паніхіда ў іхным намераньні. Чырвоныя ружы на тэтраподзе, мігценьне сьвечак у руках прысутных і шчырая малітва на вуснах лучыла ўсіх у адну вялікую сям'ю, якая перажывае глыбокі сум, але мае яшчэ глыбейшую веру ў лепшую будучыню беларускага народу і імкнецца да тае будучыні коштам нават найбольшых ахвяраў.

Таго-ж дня папалудні ў салі Хрысьціянскага Сындыкату гэнэральны сакратар АБРФ М. Наумовіч адчыніў урачыстую акадэмію і, ўшанаваўшы памяць загінуўшых змагароў і інж. Рыдлеўскага хвілінаю моўчанкі, перадаў слова В. Міцкевічу, які пераказаў гісторыю Слуцкага Паўстаньня. Аб значэньні Слуцкага Паўстаньня зьмястоўнае слова сказаў М. Наумовіч, а наступна Ал. Яцэвіч калішні случчак падзяліўся ўспамінамі аб некаторых менш ведамых мамэнтах з Паўстаньня. На заканчэньне быў прачытаны з газэты жыцьцяпіс с. п. інж. Л. Рыдлеўскага. Яшчэ ў мінулым годзе ён сам ўдзельнічаў у гэткай-жа акадэміі ў той-жа салі; між прысутнымі ня было ніводнага, каму-б ён у прыгодзе не прасьцягнуў руку помачы, цык ня дзіва, што слухаючы ягоны нэкралёг, не адзін уціраў нявольна набеглую сьлязу. На прапанову Ул. Шыманца прысутныя сабралі на памятнік для інж. Л. Рыдлеўскага 18.400 фр.

**У Ля Крэзо.**

Беларуская група ў Ля Крэзо з неслабеючай актыўнасьцю дзейнічае ў грамадзкім жыцьці. Сёлета 11-га лістапада дэлегацыя ад мяйсцовага аддзьдзелу АБРФ удзельнічала ў традыцыйным францускім паходзе з нагоды вызваленьня Францыі і злажыла вянок з бел-чырвона-белай стужкай на грробе нязнанага жаўнера.

Азначаючы 33-ія ўгодкі Слуцкага Паўстаньня была наладжана ў салі мяйсцовага мэроўстава сьяточна акадэмія, на якой акрамя беларусаў былі так-жа прадстаўнікі ад украінцаў і баўгараў. На праграму акадэміі злажыліся: рэфэрат на тэму дня і дэклямацыі патрыятычных вершаў.

# Бібліяграфія

*Chow Yih-Ching* 周毅卿 *La philosophie morale dans le néo - confucianisme (Tcheou Touen-Yi).* **Avec préface de Paul Demiéville. Presses Universitaires de France. Pares 1954, f. 8ᵉ, star. XV + 230.**

Гэта дактарская тэза, якую выдатна з пахвалаю абараніў пачынаючы кітайскі вучоны а. Джоў у Парыскім Унівэрсытэце ў Сарбоне. Яна тым вартасная, што ясна выяўляе глыбокія мэтафізычныя асновы маральных прынцыпаў, якімі кіраваліся ў сваіх паводзінах, калішнія кіруючыя пласты найбольшага ў сьвеце кітайскага народу ў часе ягонага наймагутнейшага разьвіцьця. Сфармулаваў тыя прынцыпы філязоф Джоў Туэн-І (1017-1073), пературараючы тым самым старую маральную навуку Конфуцыя ў філязафічна - маральную сыстэму.

Чытаючы гэты твор і ўсьведамляючы сучасны стан Кітаю, ня цяжка бачыць, што для бязупыннага разьвіцьця народу неабходна мець заўсёды даплыў сьвежых духовых сілаў, якія чэрпаюцца з надпрыродных крыніцаў. «Маральнасьць ня можа абыйсьціся бяз помачы з неба», кажа аўтар. А бяз тае сьвежае крыніцы нават у найбольшых народаў можа стацца катастрафальны застой. Аўтар упэўнены, што чалавецтва ў будучыні йдзе да таго, калі адзінаю поўнасьцю вартаснаю маральнасьцю для ўсяго чалавецтва, а тым самым і для Кітаю, будзе хрысьціянская маральнасьць.

**Л. Г.**

*S. Josaphat hieromartyr.* **Documenta Romana beatifecationis et canonisationis. Vol. I. 1623-1628.** *Collegit... P. Athanasius G. Welykyj OSBM.* **Romae 1952, f 8ᵉ. Star. XXXᵉ + 306. « Analecta OSBM » Series II, Sectio III.**

Якраз, калі ад некаторага часу з розных асяродзьдзяў узнавіліся і яшчэ цяпер вядуцца ўзмоцненыя спробы ачарніць асобу сьв. Ёзафата, праца а. Вэлыкага зьявілся больш чым актуальнай і

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières, Paris. Directeur : Abbé L. Horosco.

# Кнігі, прысланыя сёлета у рэдакцыю

(Працяг з вокладкі стар. 2)

Родзевіч Л,, Зьбянтэжаны Саўка. Жарт у аднэй дзеі. Ратат. выд. ЗБМ. Монтрэаль 1952, ф. 8° стар. 11.

Гаврилов М. Н., Иже во святых отца нашего Льва Великого папы римского жизнь и учение.. Изд. «Жизнь с Богом». Брюссель 1952, ф. 8° стар. 48.

Гаврилов М. Н., Ватикан, война и мир. Брюссель 1952. ф. 8°, стар. 28.

Дидимов П, Пути Господни неисповедимы. Брюссель 1952, ф. 8°, стар. 44.

Каррель А., Путешествие в Лурд, Брюссель 1951, ф. 8°, стар. 20.

Соловьев Вл., Русская Идея. Изд. «Жизнь с Богом». Брюссель 1952, ф. 8°, стар. 32.

**Biealaruski Kalendar na 1954. Zadzinocannie Bielaruskich Veteranau u Australii.**

**Bielorrusia y los Bielorrusos en la Republeca Argentina. Buenos Aires 1953, f. 8e, st. 76.**

**Cieker Josef d-r, Odgovornost Zapadu u pitanju podjaremljene Evrope. Madrid 1953, f. 12e, st. 47.**

**Chow Yih-Ching d-r, La philosophie morale dans le néo-confucianisme (Tcheou Touen-Yi). Presses Universitaires de France. Paris 1954, f. 8e, st. 23.**

**El octavario par la Union de las Iglesias y el dia del Oriente crestiano. Granada. f. 8°, st. 26.**

**Jurcic Joseph, Georges Koziak. Janissaire Slovène. Traduit du Slovène par l'Abbé F. Kolednik. Sherbrooke, Qué. 1950, f. 8e, st. 168.**

**Kristian A. A. The Right to Self-determination and the Soviet Union (East and Est). London 1952, f. 8e, st. 80.**

**RR. PP. Kurylas Bohdan et Boscaert C.SS. R., Lettres sur l Ukraine. Mons. Tome I. 1949, Tome II, 1953, f. 8e, st. 136.**

**Mikus A. Joseph. La Slovaquie. Individualité politique de l'Europe Centrale. Paris 1952, f. 12e, st. 32.**

**Morillo Santiago S. J., Las Iglesias Cristianas de Oriente, Granada 1946, s. 158.**

**Ortez de Urbina Ig. S. J., San Jgnacio de Loyola y les Orientales. Ed. CEOR. Madrid 1950, f. 8e, st. 89.**

**Otzoup Sergio, Iconografia bizantina y rusa a traves de los siglos. Ed. CEOR. Madrid 1951, f. 12e, st. 25.**

**Primi incantenati... Libro bianco sulla persecuzions relegiosa in Ukraina. Roma 1953, f. 8e, st. 80.**

**Mohedano Hernandes Jose Mara, La Iglesia del silencio. Ed. PYLSA. Madrid 1953, f. 12e, st. 161.**

**Sacrements sourcs de vie. L.F.A.C.F., Paris 1952, f. 12e, st. 109.**

**Schraijvers Jos. C.SS.R., L'histoire merveilleuse de sœur Varvara. Louvain 1949, f. 8e, st. 200.**

**P. Athanasius G. Welykyj OSBM, S. Josaphat Hieromartyr. Documenta Romana beatificationis et canonisationis. Series II. « Analecta OSBM » Sectio III. Vol. I. 1623-1628. Romae 1952 f. 8, st. XXXI + 306.**

---

трэба яе прывітаць з вялікім задаваленьнем. Да гэтага часу было надрукавана некалькі паважных кніжак аб сьв. Ёзафаце ў розных мовах, але знайсьці іх сёньня вельмі цяжка, хоць іх патрэбнасьць адчуваецца больш чым калі. Праўда а. Вэлыкый замест абшырнае біяграфіі сьвятога распачаў публікацыю дакумантаў і да таго ў лацінскай мове; здавалася-б, што гэта сухі і малакаму даступны матэрыял можа ня зусім адказвае патрэбам часу, аднак у сапраўднасьці аўтар зрабіў найлепшае, што агулам мог зробіць, бо дакуманты маюць сваю асаблівую мову. Ніводнае нават найпрыгажэйшае слова ня можа быць так моцным, як мова дакумантаў. Яны ў сваім сьвятле паказваюць кожнаму велічную постаць сьвятога Ёзафата, ягоную бязьмежную любоў да народу і шчырую адданасьць Каталіцкай Царкве з заўсёднаю гатоўнасьцю аддаць усё, нават сваё жыцьцё за свае рэлігійныя пераканаьні. Адначасна тыя-ж дакуманты выяўляюць, як нягоднымі спосабамі карыстаюцца тыя, што намагаюцца ачарніць імя сьвятога, як яны перакручваюць факты, а нават сьведамі іх фальшуюць, напр., некаторыя сказы з лісту канцлера Льва Сапегі.

Дакумантальную частку кнігі папераджае кароткі але зьмястоўны ўступ. З прыемнасьцю трэба падчыркнуць, што ў ім аўтар выяўляе аб'ектыўны падыход так да падзеяў на Украіне, як і на Беларусі. Толькі адносна тэрміналёгіі беларусы будуць мець абаснаваныя засьцярогі, бо аўтар для азначэньня Беларусі ўжывае два словы: **Alba Russia** і **Belorussia**. Адно аўтар бярэ з самых дакумантаў, а другое, відаць, утварыў сам(?) па аналёгіі да падобных словаў цяпер спапулярызаваных у францускай і гішпанскай мовах. Гэтае новаўвядзеньне ня зусім шчасьлівае і бадайшто непатрэбнае, бо апошнім часам у лацінскай мове для азначэньня Беларусі найчасьцей ужывалася слова **Alboruthenia**, відаць аўтар аб гэтым ведае, бо ўжывае яго на стар. XXII для азначэньня беларускае мовы, было-б лепш, каб ім карыстаўся выключна. Зразумела, што гэтая засьцярога не адносіцаа да тэрміналёгіі ў самых дакумантах.

Агулам трэба сьцьвердзіць, што а. Вэлыкый зрабіў, сваею працаю вялікую прыслугу для беларускіх і украінскіх гісторыкаў і асабліва для гісторыкаў Царквы, выканаўшы для іх немалую мурашкавую працу ў зьбіраньні дакумантальных матэрыялаў. Астаецца толькі пажадаць, каб хутчэй зьявіліся далейшыя томы гэтае вартаснае працы.

**а. Л. Г.**